

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(33) Верасень 1996 September Год выд. 4


*«Беларускі Дайджэст»*

## Вітае 22-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі і гасьцей-патрыётаў з усяго сьвету

## *БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА І МОВА ПРОСЯЦЬ ДАПАМОГІ*

Беларуская культура апынулася ў глыбокім крызісе. Узнікла рэальная пагроза яе далейшаму развіццю, а разам з ім і захаванню беларускага народа як самастойнага, самабытнага этнасу.

Унутраная супярэчлівасць, дваістасць нацыянальнай грамадскай самасвядомасці, выразнае фарміраванне супрацьлеглых каштоўнасна-ідэалагічных установак (таталітарызм — дэмакратыя) абумоўлены не толькі спадчынай нядаўняга мінулага, але і больш аддаленым гістарычным развіццём Беларусі, яе асобым геапалітычным становішчам паміж Усходам і Захадам.

Адным з вынікаў супрацьборства магутных усходніх і заходніх уплываў стала існаванне ў Беларусі розных канфесій, найбольш уплывовымі з якіх з'яўляюцца: праваслаўная (больш паловы ўсіх рэлігійных абшчын), каталіцкая (адна пятая) і розныя пратэстанцкія плыні (да адной чвэрці). Поўная залежнасць Беларускай праваслаўнай царквы ад Маскоўскага патрыярхату і цесныя сувязі каталіцкай царквы з Польшчай уносяць пэўны раскол у беларускае грамадства, перашкаджаючы яго нацыянальнай інтэграцыі.

Аднак галоўным негатыўным вынікам двухполюснай арыентацыі грамадскай свядомасці беларусаў з'явілася тое, што іх нацыянальная культура і мова зведзены да становішча другараднага элемента грамадска-культурнага жыцця. Зараз у цэласным выглядзе, у адзінстве ўсіх праяўленняў беларуская нацыянальная культура, па сутнасці справы, не існуе.

У выніку русіфікацыі да сярэдзіны 80-х гадоў большасць насельніцтва небеларускай нацыянальнасці, а таксама значная частка беларускага насельніцтва перайшлі на рускую мову. Беларуская мова аказалася выцесненай са сферы афіцыйных зносін і значна ўшчэмленай у сферы адукацыі.

Адзінай сферай, у якой беларуская мова жыве паўнакроўным жыццём, засталася літаратурная творчасць. У сваёй дыялектнай разнастайнасці беларуская мова захавала дастаткова моцныя пазіцыі толькі ў сельскай мясцовасці. У выніку беларуска-рускае двухмоўе набыло форму дыглосіі, пры якой частка носьбітаў беларускай мовы пачала ацэньваць яе як менш прэстыжную, непрыгодную для навукі, простую, нават вульгарную, у параўнанні з рускай.

Традыцыйнае ігнараванне працэсаў нацыянальнага развіцця ў краіне не пераадолена і да гэтага часу. Няма пакуль што і ўсведамлення значэння мовы і культуры для паўнакроўнага існавання беларускага народа. Больш таго, апошнім часам, небеспадстаўна разлічваючы на падтрымку вышэйшых асоб улады, значна актывізавалі сваю дзейнасць розныя антыбеларускія сілы, якія паставілі сабе за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

Сведчаннем існуючай дыскрымінацыі нацыянальнай мовы і культуры з'яўляецца той факт, што іх абарону ўзялі на сябе не дзяржава, а грамадскія арганізацыі, напрыклад Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

Спрадвечнае права беларускага народа на нацыянальна-культурныя каштоўнасці, перш за ўсё на шырокае прымяненне і развіццё роднай мовы, заканадаўча замацавана ў Законе "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", прынятым Вярхоўным Саветам 26 студзеня 1990 г. Закон абвясціў беларускую мову дзяржаўнай, а рускай мове адведзена роля мовы міжнацыянальных зносін, што фактычна і было паўторана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай 15 сакавіка 1994 года.

У адпаведнасці з законам дзяржава павінна забяспечыць грамадзянам неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі. У законе спецыяльна агаворана, што "ўсялякія прывілеі або абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя".

Закон абавязаў выкарыстоўваць беларускую мову ў органах дзяржаўнай улады, ва ўстановах і грамадскіх арганізацыях, у судавытворчасці і пракуратуры, замацаваўшы за ёй функцыю асноўнай мовы вывучэння. Пры гэтым не выключаецца выкладанне на рускай або іншай мове, якой карыстаецца насельніцтва краіны.

Ужо ў працэсе грамадскага абмеркавання праекта закона выявіліся крайнія пункты гледжання: альбо адмаўленне права беларускай мовы на існаванне, альбо поўнае выключэнне рускай мовы з ужытку.

Галоўнай перашкодай на шляху ўмацавання пазіцый беларускай мовы як дзяржаўнай, крыніцай расслаення грамадства і ўзрастання нестабільнасці з'яўляецца невыкананне той часткі Закона аб мовах, якая вызначае яе ўжыванне ў органах дзяржаўнага кіравання. Шматлікае дзяржаўнае чыноўніцтва проста не прыняло яго да выканання. У гэтае непрыняцце ўдалося ўцягнуць і частку рускамоўных бацькоў школьнікаў (іншы раз па прычыне сапраўднага парушэння іх моўных правоў). Менавіта кіруючыя чыноўніцкія колы настойваюць на абвяшчэнні дзяржаўнай і рускай мовы, у прыватнасці, цераз правядзенне рэферэндуму.

Між тым абвяшчэнне дзвюх моў дзяржаўнымі пры іх блізкароднаснасці і ўзаемазразумеласці без перакладу пацягне значныя матэрыяльныя затраты, што ва ўмовах вастрэйшага эканамічнага крызісу ў канчатковым выніку прывядзе да адмовы ад беларускай мовы.

Новая грамадская ідэалогія суверэннай Беларусі павінна дакладна вызначыць прыярытэт станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, яе нацыянальнай культуры, прыярытэтнае развіццё беларускай мовы як сродку захавання і развіцця гэтай культуры. Вырашэнне гэтай выключна складанай задачы мае на мэце распрацоўку комплекснай праграмы, рэалізацыя якой ажыццявіла б агульнанацыянальны сінтэз намаганняў прадстаўнікоў усіх нацый і народнасцей у развіцці сучаснай беларускай культуры.

**З нацыянальнай справаздачы аб чалавечым разьвіцьці прадстаўніцтва ААН ў Беларусі.**



**Спадарыня Валянціна ПАШКЕВІЧ** — колішняя сяброўка Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, настаўніца, аўтар двух школьных падручнікаў, у тым ліку «Fundamental Byelarussian — Беларуская мова». Культурная і грамадзкая дзеячка ў Канадзе ды вялікая патрыётка свайго народу.

Дарагая Валянціна! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



### ГЭТЫМ ПАВЕДАМЛЯЕЦЦА,

што кніга Юркі Віцьбіча "Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі" ўжо ў друку і хутка паступіць у прадажу і падпісчыкам. Кніга выдаецца Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў цьвёрдай апраўе і налічвае 413 старонак.

## ЛІДЭРЫ БНФ — АТРЫМАЛІ АЗЫЛЬ

Як падалі сродкі масавай інфармацыі, Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык — лідэры БНФ, атрымалі азыль у ЗША. Прызнаньне азылю дае ім магчымасьць сталага побыту ў ЗША. Лідэры Беларускага Народнага Фронту былі вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну, бо ім пагражала небясьпека з боку пра-сталінскага рэжыму прэзыдэнта А. Лукашэнкі.

Беларусь сталася незалежнаю дзяржавай пасьля каляпсу Савецкага Саюзу. Народны Фронт і іншыя апазыцыйныя партыі Беларусі заяўляюць, што пасьля падпісаньня пагадненьня аб збліжэньні з Расеяй, Беларусь пачала траціць шмат што са свае незалежнасьці.

Спадар Лукашэнка варожа адносіцца да іншадумства, апазыцыі і рыначнай гаспадаркі: ён разганяе мірныя дэманстрацыі, наказвае арышты, забараняе прафсаюзы і закрывае газэты. Ён акружыў сябе living рознымі чужымі агентамі, якія варожа і груба ставяцца да ўсяго беларускага, а асабліва да беларускае дзяржаўнасьці...

Падзея атрыманьня азылю лідэрамі БНФ вельмі адмоўна адаб'ецца на прэстыжы рэжыму Лукашэнкі і ягонай каманды...

***Дарагія Землякі!* Падтрымоўвайце выдавецкі фонд нашае газэты!..**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАКВАСКІ...

**Нядаўна польскі часапіс "Палітыка" зьмясьціў даволі абшырны і цікавы артыкул Я. Вільчак пад загалоўкам «Беларускія закваскі». Зьмяшчаем некаторыя выпіскі.**

Лета як звычайна на Беларусі вызначаецца часам грамадзкага спакою. Людзі вараць кампоты, паўсюдна адчуваецца пах смажаных канфітураў і заквашаных памідораў. Усё на тое, каб перетрываць зіму. Але ў гэтым годзе інакш. Так, памідоры заквашваюць як звычайна, але найгарачэй хіба ў палітычнай кухні...

Падрыхтоўка да рэфэрэндума ў справе зьмены Канстытуцыі падвысіла тэмпэратуру ў краіне. Лукашэнка задумаў зьмяніць парлямэнт, атрымаць права на разгон Вярхоўнае Рады, зрэвідаваць пытаньне прыватнай уласнасьці на зямлю. Але перад усім прадоўжыць сваю кадэнцыю да што найменш да сямі гадоў... Што з таго, што Канстытуцыя гэта забараняе. Тым горш для канстытуцыі. Прэзыдэнт ломіць Канстытуцыю без усякага пардону... Ён страшыць Канстытуцыйны суд і ўсіх тых хто не згаджаецца з яго кіраўніцтвам...

Гэтым разам праціўнікі Лукашэнкі, яго пагрозаў не баяцца. Упершыню ад прэзыдэнцтва Лукашэнкі рассвараныя дасюль лідэры беларускіх палітычных партыяў згуртаваліся, сталі ў адзін рад камуністы, лібэралы, аграрыі, сацыялдэмакраты, жаночыя арганізацыі і Беларускі Народны Фронт. Дасюль такога не бывала... Правы і левы бакі злучыла боязьнь за лёс дзяржавы. Эканамічная сытуацыя ў краіне катастрафальная. Прамысловасьць не прадукуе сёньня нічога, што можна было-б прадаць, расьце дарагоўля і задоўжанасьць за паліва, недагледжаная зямля ў саўгасах. Можа левыя дэпутаты, якія дасюль былі паслушныя прэзыдэнту прылучыліся да апазыцыі з абавы за свае пасады. Падпісаны Зварот да беларускага народу ў якім вінаваціцца Лукашэнка за стан гаспадаркі і таталітарныя мэтады кіраваньня дзяржавай. Лідэры сямі партыяў запрапанавалі прэзыдэнту далучыцца да круглага стала, у якім бачаць ратунак для краіны. Лукашэнка, аднак, прыняў гэта за антыпрэзыдэнцкую дзейнасьць.

У гадавіну незалежнасьці ў Менску ізноў дэманстравала тысячы людзей. Яны несьлі бел-чырвона-белыя сьцягі, якія забараніў Лукашэнка, і таксама карыкатуры прэзыдэнта.

На вуліцах Менску відаць што-раз больш маладых людзей у кашульках з напісам "Лука за краты". Дзяўчаты малююць сабе шмінкаю нашыйнікі, бранзалеты а нават панчохі ў забароненых бел-чырвона-белых колерах...

На супольным паседжаньні Кабінету Міністраў і Рады Бясьпекі прэзыдэнт абругаў урад за наяўны крызіс, які пагражае выбухам. Два аблаеныя заступнікі прэм'ера і міністр гаспадаркі пайшлі ў адстаўку, хоць якраз яны зварачалі ўвагу Лукашэнку, што занядбаньне рэформаў вядзе да руіны.

Неспадзявана лідэр БНФ З. Пазьняк і яго заступнік С. Навумчык папрасілі і атрымалі палітычны азыл у ЗША... Кіраўніцтва фронтам практычна пераняні праф. Юрка Хадыка і Вінцусь Вячорка...

Маладыя беларусы кажуць, што на падзеі ў краіне яны глядзяць аптымістычна, бо нарэшце народ аб'яднаўся супраць прэзыдэнта... Беларусы вараць варэньні і чакаюць восені...

---

**"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!**

# СУПРАЦЬ САМІХ СЯБЕ

**Бурліць грамадства. Беларусы ўласнымі рукамі далі згоду на знішчэнне асноў сваёй нацыянальнасці. Цяжка ўсё гэта бачыць і чуць. Болем сардэчным праходзіць яно праз свядомасць тых, хто добра разумее ўплыў вынікаў рэферэндуму на будучае самастойнасці Беларусі, яе карэннага народа.**

**На вуліцах, у магазінах, у транспарце, у сем'ях успыхваюць дыскусіі і спрэчкі. Я таксама паспрачаўся быў з адным сваім знаёмым. Ягоная думка была прыкладна такая. Мова — з'ява другарадная, галоўнае — эканоміка, матэрыяльная забяспечанасць, якой спрыяць быццам бы будзе Расія; сцяг і герб нашы зараз — БНФаўскія, здрадніцкія, фашысцкія; пры савецкай уладзе жыць было добра. Я слухаў і здзіўляўся. Мой знаёмы — беларус, яго бацьку знішчылі як ворага савецкай улады і нацдэма, як прадстаўніка найбольш працавітай і ўдумлівай часткі беларускага сялянства. Чаму ж забыта ганьба ўсяго роду гэтага чалавека? Успомнілася, што мой прыяцель быў членам КПСС, удзельнічаў у вайне супраць фашызму, стаў афіцэрам, займаў сярэднія кіруючыя пасады, вучыўся па хлуслівай гісторыі, не меў аніякага ўяўлення аб сапраўдным мінулым беларускага народа, аб лёсе мовы і яе ролі ў станаўленні нацыянальнага характару беларусаў. Дагматызм савецкіх часоў увайшоў у яго свядомасць на генным узроўні і не даваў яму магчымасці самастойна думаць, разумець сутнасць сучасных заблытаных грамадскіх працэсаў Беларусі. А яны прыйшлі не самі, да іх якраз і прывяла савецкая ўлада знішчэннем каля мільёна лепшых людзей беларускай нацыі, стварэннем хваравіта залежнай эканомікі (у асноўным — толькі для патрэб СССР), супрацьстаяннем законам агульначалавечай супольнасці, прыніжэннем чалавечай асобы, абмежаваннем магчымасцей для яе самастойных пошукаў і развіцця. Даказаць штонебудзь субяседніку было цяжка — ён не ўспрымаў аніякіх довадаў, быў зацяты і — агрэсіўны.**

**Дарэчы, адразу ж наогул узрасла агрэсіўнасць інтэлектуальнага наступу адпаведнай часткі грамадзян на беларускасць. Заходжу, напрыклад, у прыёмную рэктара аднаго з інстытутаў. А там "и. о." загадчыка адной з кафедраў зневажальна кажа літаральна наступнае: "Как хорошо, что белорусский язык отменяется! Отлетит сейчас всякая белорусская шелуха". Мне і раней даводзілася чуць ад яе брыдоты, накшталт: "Пусть помолчат эти белорусы, мы приехали, так их хоть чему-то научили". Аднак мне добра вядома, што ніхто гэтую даму сюды не запрашаў. Яна прыехала да нас з бацькам, які быў прысланы для ўмацавання савецкай улады і працаваў, здаецца, намеснікам міністра. Нельга было знайсці на гэтую пасаду карэннага жыхара? Не шукалі. Прысылалі. У гарадах Беларусі рускіх у сярэднім 20-25 працэнтаў. Значная іх частка была прыслана — чыноўнікамі, навукоўцамі, вайскоўцамі. Іх дзеці першачаргова атрымлівалі вышэйшую адукацыю, таму ў ВНУ Беларусі палова выкладчыкаў — не беларусы, якія нярэдка варожа (хоць і не адкрыта) ставяцца да беларускасці і ўздыхаюць па Расіі. А яны ж выраслі на соках беларускай зямлі і імкнуліся сюды па прычыне рахманасці беларускага народа.**

**А прыгадаем урачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю Перамогі. Тут беларускім духам і не пахла. Усюды гучала адно — "великий советский народ". А між тым, калі б не было Беларусі, як буфера, то фашысцкія армады да зімы 1941 года даехалі б да Урала.**

**Я пішу гэта зусім не для таго, каб распаліць варожасць. Пішу таму, што наступ антыбеларускіх сіл, іх агрэсіўнасць павялічваюцца. Ціск на простага, даверлівага беларуса і паспрыяў таму, што ён, не разабраўшыся, прагаласаваў супраць самога сябе. На такі зыход рэферэндуму была скіравана і даволі правакацыйная хітрасць пытанняў, яны былі такія: Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай? Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь? Ці падтрымліваеце Вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?**

**Вядома ж, што адказ на любое пытанне залежыць ад яго мэтанакіраванай формы. Дык вось, пытанні для рэферэндуму і былі сфармуляваны так, каб атрымаць пажаданыя прэзідэнту адказы — "згодзен". І каб, апроч таго, можна было выкарыстоўваць вынікі рэферэндуму як заўгодна. Бо хто ў Беларусі супраць рускай мовы? Практычна, ніхто. Яна на працягу вякоў убівалася ў кожнага беларуса пад акампанемент непатрэбнасці беларускай мовы. Апошняя і зараз ганьбуецца на ўрадавых узроўнях і рознымі беларусафобамі як проста нікчэмная. Таму (пры жаданні знайсці ісціну з улікам прыгнечанасці сукупнага беларускага характару) трэба было спачатку растлумачыць, што падразумяваецца пад паняццем "дзяржаўная мова". А галоўнае — ці разумна, ці можна наогул выносіць на рэферэндум пытанні культуры (у тым ліку мовы і нацыянальнай атрыбутыкі — герба і сцяга)? Гэта справа спецыялістаў, прапановы якіх пры неабходнасці зацвярджаюцца парламентам.**

**А што да трэцяга пытання, дык вельмі розны змест можна ўкласці ў паняцце "інтэграцыя" (зыходнае лацінскае — разам). Гэта — па-першае. Па-другое, агульны з Расіяй кацёл проста немагчымы без агульнай палітычнай улады, без агульнага войска, без агульных каўказскіх і іншых расійскіх войнаў і без яе супрацьстаяння з Захадам і Усходам, без яе імкнення выкарыстаць Беларусь у сваіх геапалітычных і іншых карысных для яе мэтах. А, па-трэцяе, сама мэта інтэграцыі не раскрыта. Таму неабходнасць такой "агульнасці" становіцца проста спрэчнай. Бо цэны на энерганосьбіты і галоўную сыравіну ў Расіі не могуць у хуткім часе не стаць сусветнымі. Тады ніхто з Расіі нішто таннае не дасць. Да таго ж, ад урада Расіі (калі б ён быў нават самым выдатным і любіў Беларусь, як сваю Маці-Радзіму) ва ўмовах рынчачных зносін мала што залежыць, гандаль ідзе напрамую паміж прадпрыемствамі пры забітасці расійскіх складаў сваімі і замежнымі трактарамі, аўтамабілямі, шынамі і іншымі вырабамі. Апроч таго, сама пазіцыя нашага прэзідэнта ў пытаннях "інтэграцыі" з Расіяй супярэчлівая, неакрэсленая. Так, у тэзісах яго перадвыбарнай праграмы было запісана: "Восстановление на равноправной и взаимовыгодной основе бездарно уничтоженных связей с государствами, ранее входившими в СССР, прежде всего с Россией и Украиной". У інтэрв'ю "Комсомольской правде" (10.11.1994 г.) пад загалоўкам "Я крепко стою на ногах" чытаем крыху іншае: "На выборах я обещал три вещи: бороться с инфляцией, коррупцией, союз с Россией и другими республиками". Пры сустрэчы ж з Ельцыным у Мінску Лукашэнка "по поводу интеграции сказал буквально следующее: Борис Николаевич поскромничал, я его понимаю. Я же хочу заявить, что обещал народу на выборах полную интеграцию с Россией и слово свое сдержу" ("Народная газета" ад 24.02.1995). І тут жа Аляксандр Рыгоравіч назваў адно з буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў адразу "российско-белорусским". Карацей кажучы, Беларусь павінна самастойна ўваходзіць у агульначалавечую супольнасць на прынцыпах узаемнай павагі, мець адносіны з усімі дзяржавамі і народамі, а не быць буферам паміж Расіяй і НАТА.**

**Складаныя і больш чым адказныя пытанні, вынесеныя на рэферэндум, патрабавалі не толькі ўзважаных, дакладных фармулёвак, але і дастатковага часу для разгляду ў самых процілеглых варыянтах сродкамі масавай інфармацыі, чаго зусім не было. Таму рэферэндум па сваёй сутнасці толькі адцягнуў увагу народа ад самых неадкладных жыццёвых праблем, і ў рознай форме прывядзе да сур'ёзнага абвастрэння напружанасці ў грамадстве. Пераможным аказаўся беларускі народ.**

**Тыя, што выказаліся за захаванне беларускай мовы, гэта мозг нацыі. Пачнецца разладдзе. Бо мозг і цела аднаго арганізма будуць функцыянаваць не ў адзіным накірунку. І арганізм захварэе цяжкай хваробай.**

"ЛіМ" **Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар**

---



Куды вецер вее,
таму певень пее...
(прэзыдэнцкія журналісты)



— Спадзяюся, што і вы мае дзеці
будзеце калісь вялікімі
сьвіньнямі...

# У абдымках з Расіяй да афрыканскага жабрацтва?

**(Нататкі з "круглага стала" Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця)**

Тое, што некаторыя нашы дзеячы з уладных структур без асаблівых сімпатый успрымаюць вывады і рэкамендацыі Валютнага фонду ці Сусветнага банка, не навіна. Бо гэтыя і іншыя міжнародныя арганізацыі "рэжуць праўду-матку" аб эканамічным становішчы Беларусі без усякага дыпламатычнага прыхарошвання. Не спадабаюцца ім, відаць, і факты, якія прагучалі нядаўна за "круглым сталом" Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця. Але яны маюць выключна важнае значэнне для разумення таго, што адбываецца ў нашай краіне. Таму, у адрозненне ад афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, мы прыводзім усе асноўныя думкі, выкладзеныя кіраўніком прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі Крыстофера Уіллобі і іншымі прамоўцамі.

Удзельнікам "круглага стала" была раздадзена дыяграма аб тым, што адбываецца з зарплатай у тых краінах, якія рэфармуюць эканоміку. З яе яскрава відаць, што ў Польшчы і Чэхіі яна знізілася з пачатку рэфармавання дзесьці да 75%, а затым павольна пачала павялічвацца. У Латвіі ўпала да 55% і потым пачала набіраць вышыню. Важна, што ў параўнальна кароткі тэрмін зарплата апускалася да горшай адзнакі і пачынала павышацца.

Рэальны заробак у Расіі цяпер складае толькі палову той сумы, якая была на пачатку рэфармавання. У Беларусі — 43%, у Казахстане — менш 40%. І яна працягвае змяншацца, невядома калі пройдзе "ніжэйшую кропку". "Міні" краін СНД хіляцца да "міні" такой краіны, як Гана. У гэтай афрыканскай дзяржаве зарплата ўпала дзесьці да 25% ад свайго першапачатковага ўзроўню і вось ужо 16 год не можа да яго ўзняцца.

Пад дыяграмай няма ніякіх вывадаў. Але яны відавочныя. Тыя краіны, якія поўнасцю звязалі свой лёс з Расіяй, відаць, будуць каціцца па ўзроўню жыцця да жабрацкай Ганы. А тыя, што вырваліся з яе абдымкаў (Польшча, Латвія, Чэхія, Эстонія) няўхільна павялічваюць зарплату і дабрабыт сваіх грамадзян.

Як жа можа такое спадабацца, калі яно не ўкладваецца ў канцэпцыю інтэграцыі з Расіяй?

А цяпер звернем увагу на выказванні спадара **Крыстофера Уіллобі**. На яго думку, у Беларусі даволі адвольна вядуцца афіцыйныя падлікі рысы беднасці. Па даных Сусветнага банка, у нас да 20% сем'яў абсалютна бедныя. І пакуль няма ніякіх прыкмет паляпшэння ў сферы аплаты працы і беспрацоўя.

Што ж трэба рабіць, каб справа зрушылася да лепшага? Сусветны банк лічыць, што неабходна: сканцэнтраваць намаганні на выпуску экспартнай прадукцыі, падтрымліваць рэальны абменны курс рубля, стымуляваць стварэнне прыватных прадпрыемстваў, хутчэй акцыяніраваць дзяржаўныя заводы, рацыянальна выкарыстоўваць інвестыцыі, не займацца кіраўніцтву краіны вырашэннем праблем асобных заводаў.

Як гэтыя прапановы разыходзяцца з тым, аб чым заяўляюць некаторыя нашыя дзяржаўныя дзеячы. А між тым яны, гэтыя прапановы, у аснове поспеху тых краін, што ўжо выходзяць з крызісу.

З вывадамі спадара Уіллобі згадзіліся амаль усе ўдзельнікі "круглага стала". Міністр працы Сасноў адзначыў, што у нас па афіцыйных даных беспрацоўе складае 3%. Але ёсць скрытае беспрацоўе, якое раўняецца 15—16%. У Беларусі імкнуліся правесці рэформы "не за кошт народа" і тым самым прывялі да банкруцтва амаль усе буйныя прадпрыемствы.

Гэтую думку падтрымаў і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Гончарык. Ён падкрэсліў, што вычарпала сябе магчымасць захаваць працоўныя калектывы за кошт нізкай зарплаты. Такая практыка прывяла да таго, што лепшыя рабочыя пакінулі прадпрыемствы.

Старшыня Свабоднага прафсаюза Быкаў падзяліўся ўражаннем ад наведвання завода аўтаматычных ліній. Яго там сустрэлі у асноўным 60-гадовыя работнікі. А дзе маладзейшыя? Яны ўжо пакінулі цэхі. Таму размовы аб тым, што на прадпрыемствах Беларусі ёсць высокакваліфікаваная рабочая сіла — міф. Самае сумнае ў тым, што ні ва ўрадзе, ні ў народзе няма волі нешта рабіць.

Усе прамоўцы з "беларускага боку" лічаць, што перад краінай стаяць тыя ж самыя задачы, якія стаялі і 5 гадоў назад. А менавіта — пачаць, нарэшце, рэформы, прыцягнуць замежныя інвестыцыі, даць людзям магчымасць працаваць і зарабляць.

Прапановы, парады выказаны. Ці пачуюць іх у кабінетах улады?

**Алесь ДРАБЧУК.**

# БНФ ПАЧЫНАЕ РЫХТАВАЦЦА ДА ДАВЫБАРАЎ

*14—19 ліпеня ў Мінску прайшла рэспубліканская канферэнцыя Беларускага народнага фронту. Паколькі пазіцыя БНФ цікавіць іх апанентаў і аднадумцаў, мы вырашылі канспектыўна адлюстраваць тое, пра што ішла гаворка на канферэнцыі. Прынамсі, гэта як інфармацыя для роздуму.*

**ВЯСНА-96: КРОПКІ НАД «І»**

Вясновыя падзеі ў Мінску канферэнцыя ўспрыняла адназначна: як паварот грамадства да БНФ. Адбылося тое, чаго тут чакалі даўно — да фронту пацягнулася моладзь. Прычым не толькі студэнты, але і школьнікі. Магчыма, далёка не ўсе з дэманстрантаў ішлі канкрэтна за БНФ, але відавочна, што далёка не апошнюю ролю адыгралі франтаўскія лозунгі, у першую чаргу — незалежнасць. Гэта акалічнасць, на думку прысутных, стала сведчаннем не толькі перспектывы БНФ як арганізацыі, але і самастойнай Беларусі ўвогуле.

Цікава, што адначасова хіба не ўпершыню прагучала ацэнка ўдзелу ў дэманстрацыі 26 красавіка прыхільнікаў УНА-УНСО. Усе сямёра затрыманых грамадзян Украіны (гэтаксама, дарэчы, як Андрэй Рамашэўскі і Славамір Адамовіч) разглядаюцца ў БНФ недвухсэнсоўна — як палітвязнёвыя. Разам з тым было прапанавана расставіць кропкі над «і»: члены УНА-УНСО Народным фронтам у Мінск не запрашаліся. Гэта было альбо іх уласнае жаданне, альбо ініцыятыва іншых палітычных сіл. Таму ўсе абвінавачанні ў выкарыстанні БНФ замежных "штурмавікоў" падстаў пад сабой не маюць. «У нас-на Украіне іншыя саюзнікі» — гэта найперш Рух і Украінская рэспубліканская партыя», — зазначыў з гэтай нагоды намеснік старшыні Фронту Вінцук Вячорка.

Сваю галоўную задачу БНФ вызначае адразу і без ваганняў — скасаванне інстытута прэзідэнцтва ўвогуле. Фронт мае намер зрабіць гэта законным шляхам, праз парламент, а таму разлічвае не толькі на падтрымку цяперашняга дэпутацкага корпуса, але (пасля давыбараў) на ўласных прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце.

**ДАВЫБАРЫ**

Аказалася, што ў выпадку з давыбарамі не ўсё так проста. На думку многіх, ужо ў бліжэйшы час існуе небяспека забароны БНФ па прадстаўленню Міністэрства юстыцыі. Таму, напрыклад, у прысланым з-за мяжы тэксце прамовы лідэра Народнага фронту Зянона Пазняка прапанаваліся ўтрымацца ад якіх-небудзь канкрэтных рашэнняў на гэты конт. Аднак у большасці прысутных сумненняў не было: удзел у дадатковых выбарах у Вярхоўны і мясцовыя Саветы прызнаны неабходным. Усе дэталі падрыхтоўкі да іх будуць абмеркаваны на жнівеньскім сойме, але ўжо зараз відавочна, што БНФ спалучыць перадвыбарную кампанію з контрагітацыяй супраць магчымага ў гэты ж час рэферэндуму.

І яшчэ: на самі давыбары фронт пойдзе ў шчыльнай звязцы з іншымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі дэмакратычнай арыентацыі. У сувязі з гэтым намеснік старшыні БНФ Юрась Хадыка ўзяў на сябе смеласць публічна папрасіць прабачэння за некаторыя нетактоўныя выказванні ў іх адрас Зянона Пазняка, і ў прыватнасці — за яго заяву, быццам усе партыі на Беларусі створаны КДБ. На думку сп. Хадыкі, пасля падобных слоў разлічваць на плённае перадвыбарчае супрацоўніцтва, прынамсі, наіўна.

**РЭАРГАНІЗАЦЫЯ**

Сапраўды, вельмі падобна на тое, што большасць з нас прызвычаілася да перафразіраванага «Мы кажам БНФ, маем на ўвазе Пазняк».

Што гэта зусім не так, можна меркаваць хаця б з ужо сказанага дагэтуль. Але канферэнцыя пайшла далей. Каб Народны фронт не атаясамліваўся толькі з адным чалавекам, вырашана стварыць пастаянны калегіяльны кіруючы орган — Палітсавет. У яго састаў увайшлі старшыня, намеснікі і сакратары БНФ, а каардынатарам прызначаны Вінцук Вячорка. Ідэя Палітсавета была падтрымана яшчэ і таму, што як паказалі вясновыя падзеі, можа паўтарыцца сітуацыя, калі той-сёй з намеснікаў будзе затрыманы і ў выніку фронт застанецца без кіраўніцтва ўвогуле.

Што датычыць пытання аб больш акрэсленым раздзеле БНФ на рух і партыю (ўласна кажучы, з нагоды гэтага летась і планавалася цяперашняя канферэнцыя), то яно амаль не закранаалася: «не актуальна»...

На пытанне аб тэрмінах вяртання лідэраў БНФ на радзіму адказ прагучаў ужо звыклы — «Пазняк і Навумчык вернуцца тады, калі для гэтага будуць умовы».

*Гэта кароткі пераказ таго, аб чым гаварылі самі «франтаўцы». Што аб гэтым думае народ, пакажуць далейшыя падзеі. Дарэчы, асноўныя выбары паказалі, што ні адзін прадстаўнік БНФ не быў абраны ў парламент.*

**Сяргей ГРЫБ.**

## Распальваньне непатрэбнае нянавісьці...

Найбольш уплывовая газэта "The New York Times" зьмясьціла на сваіх старонках пагромны артыкул супраць польскае Арміі Краёвай. Артыкул пад назовам «Пагром у Айшышках» прыпісвае бандыцкае забойства яўрэяў у кастрычніку 1944 г. удзельнікамі польскай нацыяналістычнай Арміі краёвай. У гэты час мястэчка Айшышкі было ўжо пад савецкай уладай.

Гэты востры артыкул выклікаў вялікае абурэньне сярод палякаў. Палякі злуюцца і апраўдваюцца... Свайго часу беларусы перажылі падобную падзею, і тады палякі толькі пасьміхаліся... На нашу думку, аднак, злоснае распальваньне нянавісьці з падзеяў 50-ці гадовае даўнасьці непатрэбнае і на далейшую мэту шкоднае. Гісторыя сама без злосьці і крыку ўсё паставіць на сваё месца...

# "Выпілі, а тут прычапіліся падпісаць... Падпісвалі, і я падпісаў..."

Гэта публікацыя ўжо выклікала вострыя боль не толькі ў шчырых беларусаў. Яна не можа пакінуць абыякавым нікога, хто не згубіў здаровы сэнс. Размова ідзе пра адкрыты ліст прэзідэнту Лукашэнку, які падпісалі многія "заслужаныя", "народныя" і "паважаныя", і які, па сутнасці, з'яўляецца, як заказное "палітычнае забойства" гістарычнай памяці ўсяго народа. Надрукавана яно ў "Народнай газеце" за 19 чэрвеня г.г.

Падпісанты "обеспокоены содержанием" "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (1-ы і 2-і том), "Энцыклапедычнага даведніка "Беларусь" (1995 г.) і іншых падобных выданняў. Бо яны, на іх думку, "пронизаны русофобией", "имеют пробэнээфовскую направленность", падрыхтаваны "национал-экстремистами"... Падпісанты патрабуюць ад прэзідэнта рашучых захадаў.

Я бяру ў рукі першы і другі том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", каб даведацца, хто прымаў удзел у падрыхтоўцы. Аказваецца, у рэдакцыйнай калегіі 15 вядомых гісторыкаў, сярод іх такія паважаныя даследчыкі, як Ігнаценка, Штыхаў, Мальдзіс, Касцюк, пакойны ўжо Ткачоў. Навуковымі кансультантамі з'яўляюцца 47 самых вядомых вучоных і гісторыкаў Беларусі. У падрыхтоўцы выдання ўдзельнічалі вучоныя Масквы і Санкт-Пецярбурга.

Дык што, усе яны бэнээфаўцы і экстрэмісты?

Хто ж рэцэнзуе ў адкрытым лісце прэзідэнту творы вядучых гісторыкаў Беларусі? Аказваецца, "народный врач Беларуси", "почетный гражданин города-героя Минска", "трехкратный олимпийский чемпион", "заслуженный военный летчик", "фотожурналист", "заслуженный изобретатель", "народный артист..." Ёсць сярод падпісантаў спецыялісты па генетыцы і матэматыцы, электроніцы і эксперыментальнай батаніцы...

Я вельмі паважаю заслужанага і вядомага чалавека, трохразовага алімпійскага чэмпіёна па барацьбе Аляксандра Мядзведзя. Але няўжо ён такі вялікі знаток "белых плям" гісторыі, каб брацца публічна павучаць вядомых гісторыкаў Беларусі? Мне хочацца ўсіх падпісантаў спытаць: паважаныя "народныя" і "заслужаныя", а ці ведаеце вы, што будзе, калі па вашаму прыкладу і іншыя заслужаныя, а таксама ганаровыя грамадзяне гарадоў і алімпійскія чэмпіёны пачнуць ацэньваць якасць работ па малекулярнай фізіцы, жывапісу, эксперыментальнай батаніцы?..

Цікава, як і чаму паважаныя людзі падпісвалі адкрыты ліст прэзідэнту? Званю знаёмаму мастаку, пытаюся:

— Раскажы, як было?

— А-а, — працяжна пачынае ён. — Ды на банкеце з нагоды завяршэння кінафестываля "Залаты віцязь". Выпілі, а тут прычапіліся падпісаць... Падпісвалі, і я падпісаў. Жонка мне і казала, што не варта гэта рабіць.

Распытваю дырэктара Інстытута матэматыкі Івана Гайшуна.

— Прыходзіў адзін з інстытута фізікі, угаварваў, ну я і падпісаў.

— Скажыце шчыра, а вы вывучалі тую "Энцыклапедыю гісторыі Беларусі"?

— Не, але месцы мне паказвалі.

— А як з пункту гледжання навуковай карэктнасці лічыць тое, што матэматык ацэньвае працу гісторыка ды яшчэ называе яго экстрэмістам?

— Сапраўды, надта жорстка сказана. Адчуваю, паспяшаўся з подпісам.

Гутару з намеснікам дырэктара Інстытута электронікі Анатолем Кавалёвым.

— Вядома, энцыклапедыю па гісторыі я не вывучаў, — шчыра прызнаецца ён, — але гартаў. Падпісаў той ліст на з'ездзе фізікаў. Падыходзілі, паказвалі, расказвалі.

Дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі Віктар Парфёнаў патлумачыў, што падпісаў сам, без угавораў, бо лічыць, што ў тых даведніках ёсць перакос.

— А які? Вы можаце прывесці хоць адзін прыклад?

Як я ні прасіў, ён так і не змог сказаць нешта канкрэтнае...

І мне стала страшна. Так збіраліся подпісы ў 1937 годзе пад лістамі, у якіх выкрываліся "ворагі народа".

Мне стала вельмі страшна. Не так даўно тыя ж сілы стрprintаўлі ў друку лісты аб "заціску" рускай мовы, патрабавалі ёй "раўнапраўя" з беларускай... І дабіліся свайго, цяпер пачынаюць закрываць у школах беларускія класы. Зараз яны ўзяліся за гістарычную навуку, хочуць зноў адабраць у нашага народа самы важны скарб — гістарычную памяць і праўду.

Мне страшна за тыя метады, якімі яны дамагаюцца сваіх мэт. Страшна за тую лёгкасць, з якой некаторыя ставяць свае подпісы.

**Андрэй СЯРГЕЕЎ.**

Успомнены ў артыкуле 'таварышч' Мядзьведзь на Алімпіядзе ў Атлянце нёс сталінска-бальшавіцкі "флаг"... Усе нацыянальнасьці выступалі на Алімпіядзе пад сваімі нацыянальнымі сьцягамі, і расейцы і украінцы... а беларускі табун пад сталінска-бальшавіцкім. Сорамна...

## Вячаслаў Чарнавіл:
# «Выпадзеньне Беларусі ўскладняе сытуацыю»

*Пасьля таго, як Вярхоўная Рада Ўкраіны ўхваліла новую Канстытуцыю — першую пасьля распаду СССР, карэспандэнт «Нашай Ніва» Алег Дашкевіч узяў інтэрвію ў старшыні Народнага Руху Украіны Вячаслава Чарнавіла.*



***«НН»: Спадар Чарнавіл, ці задавальняе Вас той стан, у якім цяпер знаходзіцца Ўкраіна?***

В.Ч.: Не, не задавальняе. На жаль, мы зрабілі тыповую памылку братоў-дэмакратаў, мы аддалі ўладу. 24 жніўня 1991 году, калі мы дамагліся акту незалежнасьці Украіны, у нас былі ўсе магчымасьці ўзяць уладу ў свае рукі. Трэба было адразу дамагчыся легальных перавыбараў у парлямэнт, а мы цягнулі тры гады, пакуль пагоршылася эканамічная сытуацыя. Калі б выбары адбыліся ў 1991-92 гадах, то гэта быў бы наш парлямэнт. Пасьля мы раздрабілі сілы на выбарах прэзыдэнта. Супраць аднаго Леаніда Краўчука выставілі некалькі кандыдатаў дэмакратычных сіл, збаламуцілі людзей. А намэнклятура не хацела аддаваць уладу. Калі б мы былі ўсе разам, у нас былі б шанцы выйграць прэзыдэнцкія выбары. Словам, мы па сутнасьці аддалі ўладу намэнклятуры, якая хуценька перафарбавалася. Але гэта тая самая старая адміністратыўная сыстэма, тыя ж сувязі, тая самая глыбокая карупцыя.

Так мы на чатыры гады затармазілі рэформы. На наступных выбарах мы не падтрымлівалі Кучму. Але прыйшоўшы да ўлады, ён паказаў сябе як разумны палітык, зразумеўшы што Ўкраіна —гэта вялікая эўрапейская дзяржава. Сёньня яго праграмныя дакумэнты аналягічныя з нашымі.

Дзесьці з канца 1994 году Кучма абʼявіў праграму эканамічных рэформаў. І ужо хутка два гады як яна дужа павольна ідзе. Пры Краўчуку мы ўвогуле на месцы тапталіся.

Бяда Ўкраіны яшчэ ў тым, што гэта быў запаведнік ваенна-прамысловага комплексу. Тут сыравіна, людзі з пэўнымі навыкамі, тут вугаль, мэтал. Нам напхалі столькі таго ВПК, што цяпер усё стаіць. Трэба было ўсё гэта пакрышку разьвязваць, але мы нічога не рабілі. І не зважаючы на гэта, хоць ёсьць сёньня расчараваньне ў людзей, але калі правесьці рэфэрэндум, можа не 90%, як было ў 1991 годзе, але 70-80% выкажацца за незалежнасьць. Людзі ўжо зразумелі, што ратаваць трэба самім, ня мае сэнсу наракаць на ўладу. Адкрыта наракаюць толькі камуністы. Але нават у 1994 годзе, у пік незадаволенасьці, яны разам з сацыялістамі і сялянскай партыяй не ўзялі нават траціны месцаў у парлямэнце. Сёньня іхні аўтарытэт яшчэ меншы. Яны прайгралі Канстытуцыю.

Мы прынялі сапраўдную Ўкраінскую Канстытуцыю, ня проста Канстытуцыю Ўкраіны. Там сказана пра самавызначэньне карэннай нацыі, зацьверджана адна дзяржаўная мова, нацыянальныя сымбалі, забарона палітычных партый, якія выступаюць супраць дзяржавы.

Як ня дзіўна, Украіна адна з нешматлікіх посткамуністычных краін, дзе левыя не вярнуліся да ўлады. Яны вярнуліся ў Славаччыне, Польшчы, Вугоршчыне, Літве... А ў нас прэзыдэнт ня левы, яго камуністы абвясцілі ворагам нумар адзін. Ён і ня правы. Ён беспартыйны. Ён расьце, як палітык і ўсё больш прыхіляецца да нас.

У нас Вярхоўная Рада ня мае ніякай большасьці. У нас сытуацыйная большасьць. Калі будзе патрэбна, то зьбярэм сілы і зможам выйграць Канстытуцыю. У нас — неструктурызаваны парлямэнт, мажырытарны. Беспартыйныя выбары. Толькі ў нас і ў Беларусі — на ўсёй посткамуністычнай прасторы. Мы будзем мяняць выбарчы закон.

На першым этапе, калі ня быў давыбраны парлямэнт, камуністам удалося правесьці свайго сьпікера сп. Мароза. Яны зараз на гэтым і выйграюць. Бо большасьці ўсё адно ня маюць.

Так што прыняцьце Канстытуцыі патрэбна было нам як паветра. Сёньня ўжо ніхто ня скажа, што ў нас сацыялістычны выбар, што нам трэба вяртаць у Саюз.

Праўда можна патаптаць Канстытуцыю, у вас таксама някепская Канстытуцыя. Але ў нас крышку іншая раскладка палітычных сілаў, і вярхушка ўлады трошку іншая. У нас наверсе —намэнклятура, якой патрэбна Ўкраіна для таго, каб яе даіць. Яны ня хочуць быць служкамі ў Масквы. Яны хочуць камандаваць Украінай. Гэта своеасаблівы патрыятызм партыі ўлады. Мы мусім зь імі супрацоўнічаць дзеля таго прынамсі, каб адбіць наступ камуністаў і імпэрыялістаў. Але мы разумеем, што намэнклятуру трэба мяняць. Таму мы спадзяемся на новы выбарчы закон.

***«НН»: Канстытуцыя прымалася вельмі няпроста і марудна, але была прынята за адну ноч...***

В.Ч.: Мы лічым, што ёсьць два пераможцы — прэзыдэнт і Рух. Прэзыдэнт абраў слушную тактыку. Ягоная частка канстытуцыйнай камісіі падтрымала палажэньні пра сувэрэнітэт Украіны. Мы нават удакладнілі і паставілі слова «незалежнасьць», таму што са словам «сувэрэнітэт» гуляюцца, маўляў і ранейшая рэспубліка ў СССР была сувэрэннай.

Усе гэтыя палажэньні, а таксама пра прыватную ўласнасьць, былі закладзеныя ў Канстытуцыю з дапамогай прэзыдэнцкай часткі камісіі. Камісія расколвалася на дзьве паловы — нашу і левую, але яны былі ў значнай меншасьці, таму што прэзыдэнцкая частка падтрымлівала нашу.

Ён пастаянна браў удзел у канстытуцыйным працэсе і стымуляваў яго. Калі ён пабачыў, што такая Канстытуцыя будзе правалена, ён выдаў указ пра рэфэрэндум і Вярхоўная Рада перапалохалася. Усё ж рэфэрэндум ён бы выйграў нават у нашых складаных умовах. Мы ўжо стварылі 450 штабоў падрыхтоўкі рэфэрэндуму, пачалі праводзіць канстытуцыйныя кангрэсы... Людзей найстроілі так, што непрыняцьцё Канстытуцыі — гэта большая нестабільнасьць бяда ў дзяржаве. А так хоць нейкая гарантыя ёсьць. І людзі прагаласавалі б. Пасля гэтага Вярхоўная Рада разлякалася б.

У нас левых дэпутатаў у парлямэнце мы называем камуністычным быдлам. Гэта ня тыя камуністы, якія былі ў 1991 годзе. То ўсё ж была камуністычная эліта, нашы ідэйныя праціўнікі, але адукаваныя, разумныя людзі. А цяпер прыйшла такая галота... Ня тое што бедная, яны ўжо нагрэбліся, але яны — разумовая галота. У будучыні гэтыя людзі больш ніколі да гэтых крэслаў не прарвуцца, гэта зразумела, усе бачаць іх абсалютную непрыдатнасьць. І яны спалохаліся. Зь пярэпэлаху 20 камуністаў падтрымалі праект Канстытуцыі. Якраз тое, чаго нам не хапала. Цяпер іх там з партыі выключаюць, разьбіраюцца... Так што прэзыдэнт выбраў правільную тактыку — спалохаў іх рэфэрэндумам.

А з другога боку — наш ціск. Яны хацелі выхаласьціць Канстытуцыю. Мы гэтага не дазволілі, пачалі байкатаваць. Мы выцягвалі карткі, выходзілі з залі... І так цягнулася цэлы тыдзень да апошняга дня. Яны чакалі перамогі Зюганава ў Расеі, і цягнулі, як маглі. Але Канстытуцыя была прынята да выбараў у Расеі. Мы вырывалі ў іх артыкул за артыкулам. Гэта была ўпартая барацьба, дзе галоўную скрыпку іграў Рух, наша фракцыя ў парлямэнце. Таму мы кажам, што гэта перамога дзьвюх сілаў — прэзыдэнта і Руху.

***«НН»: Што Вы можаце сказаць пра прэзыдэнтаў Украіны?***

В.Ч.: Краўчук перайшоў на нацыянальна-дэмакратычныя пазыцыі. Ён цяпер абсалютна дзяржаўнік. Можа нават у душы баіцца, што раптам Кучма пацягне назад, маўляў выйшаў з ВПК, яму давялося цяжка вяртацца да ўкраінскай мовы. Слава Богу, вярнуўся. Для Краўчука гэта прыродна, ён быў ідэолягам кампартыі, але вельмі добра ведаў украінскія праблемы. Ён сам з заходняй Украіны, з Валыні, штосьці ўкраінскае ў ім жыло. Словам, Краўчук цьвёрда стаў на нацыянальныя пазыцыі і змог працісnуць пытаньне з сымболікай нават тады, калі гэта было надзвычай цяжка. Ён падтрымліваў дзяржаўнасьць мовы і ўсю дзяржаўную атрыбутыку, але быў вельмі нерашучы ў эканамічных пытаньнях, асабліва кадравых. Ён пабаяўся прывесьці нас да ўлады. Ён прыхіліўся да старой камуністычнай намэнклятуры. А яна яму здрадзіла. На выбарах большасьць зь іх падтрымала Кучму.

Такім чынам Краўчук — раздвоеная фігура, можна нават сказаць трагічная фігура пераходнага пэрыяду.

***«НН»: Ці цяжка было супрацоўнічаць з сакратаром ЦК па ідэалёгіі, калі стала ясна, што ён — прэзыдэнт?***

В.Ч.: Я быў яго асноўным апанэнтам на прэзыдэнцкіх выбарах, узяў другое месца, нават афіцыйна кожны чацьверты голас быў мой, хоць былі парушэньні. Але я праз гэта хутка пераступіў і меў кантакт зь ім. Усё выглядала прыстойна, але зьліла тое, што не было поступу наперад. Былі толькі словы, а мы маглі і з Чарнаморскім флотам вырашыць пытаньні. Усю армію мы забралі, трэба было забіраць і флот, рабіць Касатонава міністрам Ваенна-марскога флоту Украіны, тым больш, што ён быў гатовы да гэтага. Але Краўчук пачаў палохацца, ён — вельмі асьцярожны. З Крымскай аўтаноміяй нам нашкодзіў — гэта яго ідэя. І сёньня мы маем дзяржаву ў дзяржаве. Пасьпяшаўся з ядравай зброяй, трэба было пагандляваца, і больш выгандляваць. І ўсё ж гэта першы прэзыдэнт, які стаяў на пазыцыях дзяржавы і выводзіў гэтую дзяржаву ў сьвет.

***«НН»: Як Вы ўспрымаеце сучасную сытуацыю ў Беларусі?***

В.Ч.: Мы сочым за масавымі выступамі пратэсту з захапленьнем, бо нават не чакалі, што ў Беларусі такое магчыма супраць дыктатуры Лукашэнкі.

Я добра ня ведаю сытуацыі ў Беларусі. Ваша галоўная бяда ў тым, што ў вас не было Галічыны і Кіева. Кіеў — унікальны горад. Хоць тут гавораць у большасьці на расейскай мове, але гэта вельмі патрыятычнае месца. Кіеў заўжды падтрымліваў дэмакратыю: і ў 1990 годзе, і цяпер. Тут аніводзін камуніст не праходзіць. Да таго ж ёсьць Галічына, дзе з 1990 году пачалі вельмі рашуча праводзіць усё тое, што потым пераняла ўся Ўкраіна: сымболіку, прэсу, дэпартызацыю, зямлю пачалі дзяліць і акцыянаваць.

***«НН»: У чым, на Вашую думку, розьніца народных рухаў Балтыі, Беларусі і Ўкраіны. Як вы лічыце, яны выканалі сваю ролю?***

В.Ч.: Калі я з Ландсбергісам гаварыў, ён шкадаваў, што яны рана распусьцілі Саюдзіс. Але ён, мабыць, павінен быў распасьціся, таму што яны адразу пайшлі па лініі традыцыйнага партыйнага плюралізму — адраджэньня партый, якія існавалі да 1940 году. Таму там не было такой унутранай еднасьці, як у нас у Руху.

Калі мы партызаваліся, то партыі, якія нарадзіў Рух, складалі працэнтаў пяць. Усе астатнія былі чыстыя рухаўцы. А Саюдзіс быў асуджаны на распад з пачаткам палітычнага плюралізму. Калі для іх гэта было нармальна, то ў нас разьбіваць рух на партыі было небясьпечна. Мы паводле сваёй задачы былі партыяй, паводле статусу — не. Задача — прыйсьці да ўлады. Але ўсьведамленьня, як гэта зрабіць, не было. І тое, што мы здолелі ў 1992 годзе разьвярнуцца і пайсьці ў бок партыі, дазволіла зьберагчы нашыя структуры, нашае членства, а тыя партыі, якія выйшлі з Руху, сёньня захірэлі і зноў цягнуцца да нас. Па сутнасьці, мы былі партыяй расхрыстанай, а цяпер сталі партыяй значна больш арганізаванай.

У нас таксама былі перапады, напэўна гэта абʼектыўна. Проста іншы пэрыяд наступіў, напэўна, пік усіх франтоў — ззаду. Трэба цьвяроза і прафэсійна рабіць палітыку. Магчыма гэтым шляхам пойдзе і БНФ, бо сытуацыя нечым падобная, таму што няма моцных партый. Фронту патрэбна, напэўна, дакладней партызавацца і скласьці асноўную партыю, не адкідаючы магчымасьці стварэньня якіх-небудзь блёкаў.

***«НН»: Што Вы думаеце пра людзей, якія выходзяць на вуліцы супраць Лукашэнкі?***

В.Ч.: Прапусьціць гэты момант нельга. Трэба даць ім пазытыўны зьмест, бо яны працуюць на нэгатыве.

***«НН»: Украіна праводзіць адметную зьнешнюю палітыку. Апошнім часам зроблены рашучы крок у Эўропу...***

В.Ч.: Варта сказаць пра дасягненьні ў гэтай галіне каманды Краўчука. Ён пачаў больш-менш актыўна займацца зьнешняй палітыкай, а сыстэматызаваў яе Кучма. Міністар Удавенка мае вельмі прадуманую канцэпцыю зьнешняй палітыкі. Мы не ідзем ні на якія падпісаньні ў рамках СНГ, якія б уціскалі наш сувэрэнітэт. Зь іншага боку, імкнемся наладзіць кантакт з былымі савецкімі рэспублікамі. Я думаю, разумная палітыка — з арыентацыяй больш на Эўропу, чым на Ўсход. Хоць мы і гаворым пра стратэгічнае партнэрства з Расеяй, але ніхто ня ведае, што гэта значыць.

***«НН»: Як вы глядзіце на ідэю Балтачарнаморскага Саюзу?***

В.Ч.: Гэта вельмі плённая ідэя, якую Рух выношваў з самага пачатку. Яна нават набліжалася да нейкіх рэальных формаў. Вы прыгадайце, як мы спрабавалі правесьці ідэю Балтачарнаморскага нафтавага калектару. І Менск, і Кіеў былі зацікаўленыя, каб гэты праект ажыцьцявіць, гэтым самым пазбавіцца ад расейскай манаполіі на нафту і газ. Але пасьля таго, як у Беларусі адбыўся, па сутнасьці, пераварот, усталяваўся рэжым Лукашэнкі, гэтая ідэя правісла ў паветры. І атрымаўся ўбіты клін.

Я быў у Эстоніі, там і апасыцыя,



## СЛОВЫ ПРАЎДЫ...

***На нашых вачах адбываецца злачынства. Ідзе бессаромны продаж дзяржавы. І ў гэтым продажы парушаецца ўсё: Канстытуцыя, законы, правы чалавека, сумленне, мараль. Прадажніцтва ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Народ ператвораны ў аб'ект брудных маніпуляцый, а нашы дзеці — у заложнікаў расійскіх крывавых разборак.***

***Нашых дзетак, разумных, таленавітых, якія адчулі смак волі і зазналі шчасце мець сваю Радзіму, заграбаюць у пастарункі. Светлая наша Беларусь ператворана ў змрочны следчы ізалятар. Радуюцца турэмшчыкі. Ды рана, рана. Не дзесяткі і не сотні, а дзесяткі тысяч маладзенькіх ужо сказалі сваё «не» гэтай навале. Не пабаяліся «бацькавых» дубінак, не пабаяліся выключэння з універсітэтаў, бо зразумелі, што лепей не жыць, чым жыць без волі і Радзімы.***

***Я шчаслівы, што дажыў да такого дня.*** Р.ГРУДНІЦКІ,



## III-Festiwal...

Już po raz trzeci mamy przyjemność zaprosić Państwa na Festiwal Mniejszości Narodowych, który odbędzie się w Gdańsku w dniach 13-15 września 1996 roku. Będzie to największa w 1996 r. tego typu impreza prezentująca kultury mniejszości. Nie powinno tam zabraknąć osób, które identyfikują się z kulturą swojego narodu i którym na sercu leży jej trwanie.

W Polsce mieszka około 650 tys. Niemców, 450 tys. Białorusinów, 300 tys. Ukraińców, 15 tys. Litwinów, 13 tys. Romów, 6 tys. Greków, 5 tys. Żydów, 4 tys. Słowaków, 2 tys. Macedończyków, 2 tys. Czechów, a także Ormianie, Tatarzy, Karaimowie i Staroobrzędowcy. Łącznie mniejszości narodowe liczą ok. 1,5 mln, co stanowi 4% populacji (dane uzyskane od organizacji mniejszości narodowych).

Mniejszości narodowe — ich historia, tradycja, dorobek kulturalny oraz problemy, z którymi się borykają są zupełnie obce przeciętnemu Polakowi, a funkcjonujące wyobrażenia o mniejszościach opierają się głównie na stereotypach...

і ўлады падтрымліваюць гэтую ідэю няхай ня блёку, але нейкай Балта-чарнаморскай структуры. Але выпадзеньне Беларусі вельмі ўскладняе сытуацыю.

Ідэя носіцца ў паветры, але пакуль не набыла выразнай формы, магчыма таму, што за яе прапаганду і ажыцьцяўленьне ўзяліся разам з сур'ёзнымі структурамі трэцеразрадныя. Проста трэба, каб сур'ёзныя палітыкі і дзяржаўныя дзеячы ўзяліся за справы. У нас, дарэчы, гэтую ідэю актыўна палтрымліваў папярэдні прэзыдэнт. Гэты пакуль адмоўчваецца. Ідэя вельмі пэрспэктыўная, але праблема пакуль што ў Беларусі.

*Кіеў*

**ІНТЭРВ'Ю**

*Намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка ацэньвае вынікі працы Вярхоўнага Савета, сённяшнюю палітычную сітуацыю і здольнасць парламента процістаяць працэсу «прыватызацыі» дзяржаўнай улады*



# Г. Карпенка: «Пытанне імпічменту абмяркоўваецца амаль усімі дэпутатамі»

**— Генадзь Дзмітрыевіч, як бы Вы ацанілі галоўныя вынікі першай сесіі Вярхоўнага Савета? Ці ўдалося парламенту выконваць асноўную задачу заканадаўчай улады — стаяць на варце законаў і Канстытуцыі?**

— Найперш я б падкрэсліў, што Вярхоўны Савет узяў на сябе ініцыятыву па разглядзе эканамічных праблемаў. Сёння гэта галоўнае пытанне нашага жыцця, на якое трэба даваць адказ разам з выканаўчай уладай. На жаль, я вымушаны зазначыць, што парламент за ўвесь час сваёй дзейнасці не атрымаў ніводнай прапановы ад выканаўчай улады па разглядзе эканамічных законапраектаў. Не з'явіўся прэзідэнт і на слуханні ў Вярхоўным Савеце па разглядзе эканамічнай канцэпцыі развіцця дзяржавы.

Сёння ў нашай краіне распрацоўваецца чатыры канцэпцыі. Адна праграма рыхтуецца ў прэзідэнцкіх структурах, другая — кабінетам міністраў, трэцяя — Нацыянальным банкам, а чацвёртую вымушаны ствараць сам Вярхоўны Савет. Спробы распрацаваць адзіную канцэпцыю, стварыць для гэтага агульную каманду пакуль не даюць выніку...

**— Хацелася б пачуць ад Вас палітычную ацэнку дзейнасці Вярхоўнага Савета. Ці стаў ён сапраўды заканадаўчым органам, ці можа цяперашні парламент спыніць парушэнні Канстытуцыі?**

— Прыйшоўшы ў Авальную залу, новыя дэпутаты некалькі месяцаў жадалі працаваць у адным накірунку і згодзе з «вертыкаллю» і прэзідэнтам. На жаль, гэтыя мэты і ідэі былі перакрэсленыя незразумелымі дзеяннямі, у першую чаргу прэзідэнта. Увесь шлях да канфрантацыі з парламентам нашага прэзідэнта з'яўляецца звяном у адзіным ланцугу стратэгічнай палітыкі Лукашэнкі. «Дрэнным» быў той Вярхоўны Савет, Канстытуцыйны суд — прэзідэнт быў «добрым». Былі «добрымі» ўсе сілавыя міністры, цяпер яны «дрэнныя» і іх няма на сваіх пасадах, самым «дрэнным» стаў цяперашні Вярхоўны Савет. Сёння прэзідэнт прапануе новы двухпалатны парламент, але я ўпэўнены, што праз паўгода і гэты заканадаўчы орган з падачы прэзідэнта стане «дрэнным».

Толькі ў нашай краіне магла стварыцца такая сітуацыя, калі парламент быў вымушаны прыняць закон, выбачайце мне гэты каламбур, аб выкананні закона. Я маю на ўвазе ўнясенне змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы, паводле якіх за невыкананне законаў устанаўліваецца пакаранне пазбаўленнем волі да трох гадоў.

**— Аналітыкі цяпер разважаюць аб тым, што можа адбыцца восенню. Як будзе рэагаваць парламент на апошнія прапановы Лукашэнкі аб рэферэндуме?**

— Для мяне не існуе пытанне, што будзе восенню. Будзе пагаршацца эканоміка і развівацца істэрыя на тэму «нехта перашкаджае, нехта не дае працаваць». Асабіста я, як грамадзянін, прозвішча якога ўвесь час называе прэзідэнт, — я асабіста гатовы прыняць на цэлы год умову не крытыкаваць тое, што робіць прэзідэнт. Калі гэта вырашыць праблемы — я згодны пайсці на такі крок.

**— Пры ўмове, што прэзідэнт таксама не будзе выступаць са знявагамі?**

— Мяне сёння нават і не хвалюе, што ён гаворыць у мой адрас. Тое, што Лукашэнка нагаварыў з бавоўнай, з Маладзечнам, тыя крокі, якія рабіліся супраць маёй працы і маёй сям'і, — пасля ўсяго гэтага мяне ўжо нічога не здзіўляе. Я не веру гэтаму чалавеку і не веру, што ён калісьці можа папрасіць прабачэння.

Як паставяцца дэпутаты да восеньскіх падзеяў? Калі два-тры месяцы таму ў большасці нават і думкі не было, каб нейк процістаяць прэзідэнту, то цяпер пытанне імпічменту абмяркоўваецца і абдумваецца амаль усімі дэпутатамі. Безумоўна, тут шмат чаго будзе залежаць ад пазіцыі Сямёна Георгіевіча Шарэцкага.

**— Якраз хацеў спытацца Ваша меркаванне наконт тых даволі нечаканых паваротаў з Шарэцкім, якія прывялі да яго вядомага сенсацыйнага выступлення. Вылучаліся версіі аб «расійскім следзе», гаварылі аб нейкім «парыве душы». Лукашэнка ж павярнуў справу так, нібыта Шарэцкі выступіў, не падумаўшы.**

— Вядома ж, гэта не «расійскі след» і не «парыў душы». Сямён Георгіевіч мае багаты жыццёвы вопыт і ні на які рашучы крок не пойдзе без папярэдняга асэнсавання сваіх дзеянняў. Шарэцкі больш за любога іншага дэпутата адстойваў палітыку стрымлівання любых жорсткіх выказванняў у адрас выканаўчай улады, у прыватнасці, папрасіў мяне адысці ад усялякай вострай палемікі. Сямён Георгіевіч прапусціў усе апошнія падзеі праз сябе, выкрышталізаваў свае сённяшнія адносіны — але тлумачыцца гэта не «парывам душы», а тымі ўчынкамі, якія рабіў прэзідэнт у дачыненні да Вярхоўнага Савета. Тут і неаднаразовыя знявагі і парламента, і асобных дэпутатаў, і хамскія адносіны да заканадаўцаў той групоўкі, якая называе сябе «камандай прэзідэнта».

**— Інакш кажучы, Вы ўпэўнены ў Шарэцкім?**

— Я, безумоўна, упэўнены, што калі працягнецца цяперашні прэзідэнцкі «курс» на знявагу і знішчэнне Вярхоўнага Савета, Шарэцкі будзе прытрымлівацца той пазіцыі, якую ён пазначыў у апошніх сваіх выступленнях.

**— Заўтра адзначаецца Дзень незалежнасці. За гэтыя шэсць гадоў калі мы былі бліжэй да сапраўднай незалежнасці?**

— Сёння мы далей ад Беларусі. Цяперашняя ўлада амаль не жадае рабіць Беларусь самастойнай дзяржавай, не жадае, каб гэты дзень стаў сапраўдным святам.

**— Ці не лічыце Вы, што Лукашэнка можа чарговы раз палітычна ператварыцца і стаць вялікім прыхільнікам суверэнітэту, калі гэта будзе выгадна?**

— Пра гэты палітычны «ваўчок», гэтую «юлу» я нічога «лічыць» не хачу. Яго дзеянні не паддаюцца ніякаму прагнозу і лагічнаму асэнсаванню.

**— Але ўсе гэтыя знешне нібыта нелагічныя дзеянні звычайна накіраваныя на адну мэту — атрымаць чарговую перамогу і ўмацаваць сваю ўладу. У гэтай сувязі я хачу задаць наступнае пытанне. Многія прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці менавіта Вас бачаць найбольш рэальным дэмакратычным кандыдатам на наступных прэзідэнцкіх выбарах. Але ў Вярхоўным Савеце Вы паводзіце сябе неяк занадта спакойна, можа, нават інертна: займаецеся пераважна эканамічнай і заканадаўчай працай і амаль не звяртаеце ўвагу на стварэнне палітычнага іміджу, на «раскрутку». Скажыце, ці гатовы Вы да ролі кандыдата ў прэзідэнты?**

— Усе дэмакратычныя сілы — і гэта паказалі мінулыя выбары — павінны спыніцца на адзінай кандыдатуры. Калі такі чалавек будзе выбраны, незалежна ад яго прозвішча я буду на гэтую кандыдатуру працаваць. Аддам усе сілы, каб ён перамог.

Што да маёй пазіцыі ў Вярхоўным Савеце... Так, часам мне і самому цяжка сядзець у прэзідыуме, часам хочацца падыйсці да другога мікрафона, з якога я выступаў, калі быў простым дэпутатам у мінулым Вярхоўным Савеце. Але вы павінны зразумець: я вяду вельмі многа пленарных паседжанняў, эканамічных пытанняў і лічу, што сёння мая галоўная праца — праводзіць на высокім узроўні законатворчую дзейнасць. Аднак сваю актыўную палітычную дзейнасць я сёння пераношу па-за сцэны Вярхоўнага Савета, дзе я не звязаны прафесійным абавязкам. І апошняе: калі я стаў намеснікам спікера, у мяне была дамоўленасць з Сямёнам Георгіевічам, што я неяк спыню сваю актыўную крытыку, дам магчымасць Вярхоўнаму Савету самому дайсці да разумення таго, што адбываецца ў нашай дзяржаве.

**— Некаторыя палітыкі сёння выказваюць меркаванне, што Расія будзе зацікаўленая ў тым, каб палітыку на Беларусі рабілі іншыя, больш прадказальныя людзі. Існуе думка, нібыта Масква можа быць незадаволеная дзейнасцю Лукашэнкі.**

— Расія за перыяд знаходжання пры ўладзе першага прэзідэнта Беларусі дасягнула надзвычайнай эканамічнай выгады, Расія можа дыктаваць нашай краіне і палітычныя ўмовы. Заявы аб «нулявым варыянце», інтэграцыі і г.д. на самой справе так заявамі і застаюцца. А рэальна робіцца аднабаковыя крокі ў інтарэсах Масквы. Не хацеў бы, каб наступную прымаўку, якую я раскажу, асацыяравалі б з нейкім канкрэтным палітыкам, але менавіта гэтым выслоўем я кіруюся апошнім часам: «лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці».

Свабода"

*Гутарыў*
**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

**Ці Вы прыслалі ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?**

# Генадзь КАРПЕНКА:
# "ГАЛОЎНАЯ ІДЭЯ — БУДАВАННЕ СВАЙГО ДОМУ, СВАЁЙ ДЗЯРЖАВЫ"

*"ЛіМ"*

***Шэсць гадоў назад была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі. Дзень 27 ліпеня павінен быў бы стаць самым светлым днём (поруч з 25 сакавіка, прынамсі) у жыцці нашага народа. Дзень незалежнасці — гэта свята волі, свабоды, суверэнітэту, свята вызвалення ад шматгадовай імперскай залежнасці, паднявольнага існавання. Васіль Быкаў аднойчы сказаў, што як жыццё — галоўная каштоўнасць, дадзеная Богам чалавеку, так незалежнасць — галоўная каштоўнасць нацыі. Як мы разумеем і беражом гэтую каштоўнасць? Ці стала яна галоўнай патрэбаю грамадства? Ці хочам мы, беларусы, "людзьмі звацца", і што гэтаму перашкаджае? Пра гэта — наша гутарка з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзем КАРПЕНКАМ.***

**— Генадзь Дзмітрыевіч, наступны нумар "ЛіМа" выйдзе 26 ліпеня, напярэдадні Дня незалежнасці Беларусі. Вы былі членам парламента, які прыняў Дэкларацыю аб незалежнасці, а пасля надаў ёй статус Закона. З якімі пачуццямі згадваеце вы той час і з якім настроем сустракаеце сёлетні Дзень незалежнасці нашай дзяржавы?**

— Як кажуць, сам Бог, альбо лёс вырашыў тады за нас пытанне, быць нашай дзяржаве ці не быць. Пагадненне, падпісанае ў Белавежскай пушчы, было выйсцем з таго палітыка-эканамічнага становішча, у якім апынуўся былы СССР. Было відавочна, што рэспублікі, якія ўваходзілі ў СССР, павінны былі вырвацца з імперскіх абдымкаў і пачаць будаваць сваё жыццё па сваіх уласных мерках і разуменнях. Такая мажлівасць, такая доля выпала і Беларусі, поруч з іншымі братнімі, як тады гаварылі, народамі — і нашаму народу. Пачаць будаваць новую Беларусь сваімі рукамі, сваімі сіламі — гэта было прыемнае, радаснае пачуццё. Аднак жа, памятаю, прыходзіў і турботны одум. Дэкларацыя, палітычны тээіс, які сцвярджае, што абвешчана, узнікла на карце свету незалежная дзяржава Беларусь — гэта толькі падмурак яе, першы камень на будоўлі нашага нацыянальнага дому. Думалася аб эканамічным грунце нашай незалежнасці. Мы лічылі нашы плюсы і мінусы ў гэтым плане, і самы вялікі мінус — гэта, натуральна, адсутнасць энерганосьбітаў. Мы добра разумелі, што з такой, завязанай на ўвесь былы Саюз, вытворчасцю нам далёка не пайсці, што трэба неадкладна пераходзіць да новых тэхналогій, але разумелі і тое, што гэта будзе вельмі і вельмі няпроста. Немалыя спадзяванні звязвалі мы з геаграфічным — як цяпер модна гаварыць, геапалітычным становішчам Беларусі, плюсы якога наш урад павінен выкарыстоўваць як добры шлях для пераўтварэння эканомікі...

У мяне асабіста, не хачу таіцца, пагадненне ў Віскулях выклікала і іншыя пачуцці. Зрэшты, не само пагадненне, а тое, як яно падпісвалася. Я быў тады членам прэзідыума Вярхоўнага Савета. Чакалі прыезду Ельцына, памятаю. Была запланавана ягоная сустрэча з членамі прэзідыума, але — яе не адбылося. Селі на самалёт і паляцелі ў пушчу. А раніцай даведаліся, што падпісана Віскулёўскае пагадненне. Пэўна, адсюль — ад гэтае нечаканасці, раптоўнасці, мо нават выпадковасці — нейкае ўнутранае непрыняцце яго. У цывілізаваных краінах такія пагадненні павінны падпісвацца таксама цывілізавана. Прыклад гэтага — "развод" Чэхіі і Славакіі. Мне думаецца, што калі б мы наш, савецкі "развод" падрыхтавалі больш цывілізавана, не было б вакол яго і ніякіх спекуляцый. Вядома, мне могуць запярэчыць, што такія справы робяцца адразу, або не робяцца ніколі. Няпраўда! Распад СССР быў наканаваны. Не толькі парламентарыі, але і простыя людзі разумелі, што надалей гэтую абрэвіятуру — СССР — з такімі адносінамі паміж складнікамі-рэспублікамі, якія былі паміж імі на той час, захаваць ужо немагчыма. І галасавалі мы за дэкларацыю свядома, галасавалі з радасцю і пачуццём гонару, што ў Еўропе, у самым цэнтры ее, узнікае дзяржава Беларусь, што яна зойме нарэшце свой "пачэсны пасад між народамі", што ў яе будзе свой старадаўні герб і нацыянальны сцяг, што народ наш пасля цяжкіх і шматгадовых выпрабаванняў атрымае сапраўдныя магчымасці для ўсебаковага развіцця, для адраджэння сваёй старадаўняй і высокай культуры. Памятаю, ніколі не забуду пачуццё гонару і захаплення ад першага поспеху нашых спартсменаў на алімпіядзе, калі яны ўвайшлі ў дзесятку лепшых каманд свету. Колькі было спадзяванняў, што за гэтым трыумфам нашай дзяржавы будуць новыя перамогі і здзяйсненні. Але, на жаль, неўзабаве пачалося ў нас рабіцца нешта іншае — неразбярыха, непаразуменне ў эканоміцы, хлусня ў палітыцы, усеагульнае таптанне на месцы і нават адкат назад. І сёння, напярэдадні чарговага Дня незалежнасці краіны, я ўжо не магу, як гэта ні прыкра, сказаць, што зведваю пачуццё гонару за яе...

**— Генадзь Дзмітрыевіч, так званы парад суверэнітэтаў праходзіў тады па ўсіх былых саюзных рэспубліках. З таго часу краіны Прыбалтыкі, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі, Украіна, Малдова прайшлі па шляху незалежнасці куды далей, чым мы. Чаму нашы шляхі разышліся? Беларусь жа — па ўсіх паказчыках — мела нібыта найбольшыя шанцы хутчэй і лягчэй перайсці да рынкавай эканомікі і наладзіць нармальнае, чалавечае жыццё для людзей. Чаму ж суседкі, былыя нашы сёстры, абагналі нас?**

— Ну, нельга, бадай, сказаць, што мы вельмі зайздросцім нашым суседзям, тым не менш яны сапраўды цвёрда пайшлі сваім шляхам. І многія з іх на самай справе дасягнулі немалых поспехаў. Я, напрыклад, думаю, што і Украіна пойдзе па шляху незалежнасці больш упэўнена і пасляхова, маючы даволі шчодрыя прыродныя рэсурсы, але там, на жаль, прыблізна такое ж становішча, як і ў нас. Таму я не гаварыў бы катэгарычна, што мы адсталі, прытым моцна, ад усіх. Тым не менш, мы сапраўды пляцёмся ў хвасце эканамічных пераўтварэнняў. Наогул, тое, што робіцца сёння ў нашай эканоміцы, цяжка зразумець і вытлумачыць, і калі так будзе працягвацца яшчэ два-тры гады, дык адзін Бог ведае, ці выплывем мы. Мы адстаём ад іншых у эканамічных рэформах. Гэта мы бачым і самі, і гэта гавораць нам суседзі. Тая ж Расія, калі мы вядзём з ёю гаворкі пра эканамічную інтэграцыю. Адстаём сама мала на 3—4 гады ад той жа Расіі. Чаму гэтак здарылася? Мяркую, гэта ўсе разумеюць. Як і тое, што асабліва гэта дзеецца ў апошнія два гады.

У Беларусі дэмакраты так і не прыйшлі да ўлады. Прыход дэмакратычнага лідэра Шушкевіча быў толькі прыходам самога Шушкевіча, ніякай каманды разам з ім не прыйшло. Гэта была ці не самая галоўная памылка дэмакратычнага руху Беларусі. Далей — болей памылак. Тыя ж прэзідэнцкія выбары — зноў няма яднання людзей дэмакратычнага напрамку. І сёння, калі да ўлады прыйшоў А. Лукашэнка, пры ўладзе засталася, без сумнення, старая партыйная наменклатура. І лідэр — з яе ж шэрагу, толькі не такога высокага ўзроўню. Колішняя партыйная наменклатура, асабліва ў верхніх эшалонах, была куды вышэйшага ўзроўню, чым узровень сённяшняга лідэра. І калі сёння ёсць супрацьстаянне ці, больш дакладна будзе сказаць, непаразуменне паміж камуністамі і прэзідэнтам, то гэта толькі непаразуменне, непрынцыпае ўзроўню інтэлектуальнага, палітычнага кругагляду. На самай справе Аляксандр Рыгоравіч аддана служыць справе Леніна, і робіць усё тое ж, што рабілася раней у нашай колішняй рэспубліцы з назваю БССР. Мы застаёмся на старых эканамічных поглядах, на старой сацыяльна-эканамічнай ідэалогіі, і таму мы сёння ў ізаляцыі ад еўрапейскіх краін, ад усяго прагрэсу свету. Нас не разумеюць ні далёкія краіны, ні бліжэйшыя, нас не разумеюць нават нашы суседзі, у тым ліку і Расія. Такая ідэалогія замыкае нас у сваёй шкарлупіне, з якой мы вымушаны вырвацца, вылазіць самі...

**— Хачу запытаць вас аб тым, што, бадай, найбольш цікавіць чытачоў "ЛіМа" — газеты творчай інтэлігенцыі. Яна, кажуць, заўсёды знаходзіцца ў апазіцыі да ўлады. Як, пэўна, і наогул інтэлігенцыя — навуковая, тэхнічная, педагагічная. Сёння ў нас гэта асабліва відавочна. Генадзь Дзмітрыевіч, якая, на вашу думку, роля інтэлігенцыі, у тым ліку і творчай, інтарэсы якой рэпрэзэнтуе наш штотыднёвік, у суверэннай дзяржаве, асабліва на пачатку яе станаўлення?**

— Напачатку творчая інтэлігенцыя, а мо асабліва тэхнічная, навуковая, не стаяла ў апазіцыі да ўлады. Тады, калі на чале яе стаяў Шушкевіч. Яна разумела яго, падтрымлівала, жадала наспелых перамен у грамадстве. Не разумела іншага — чаму ён марудзіць з рэформамі, чаму не запатрабаваў высокі патэнцыял — інтэлектуальны, духоўны, грамадзянскі — інтэлігенцыі. Што да сённяшняй улады, дык, безумоўна, інтэлігенцыя сёння знаходзіцца ў жорсткай апазіцыі да яе. Прэзідэнт шукае масток паміж сабой, паміж кіруючай уладай і інтэлігенцыяй з тым, каб яна схавалася, схіліла ў пакоры галаву. Аднак я думаю, што гэтага не адбудзецца. Хоць бы таму, што інтэлігенцыя сама па сабе мае больш высокую і падрыхтоўку, і самасвядомасць, чым сённяшняя ўлада, дакладней, прадстаўнікі яе, у тым ліку на самым высокім узроўні. Сёння ў нас сама ўлада абвастрае супрацьстаянне ў грамадстве. І таму я вельмі хацеў бы, каб інтэлігенцыя давяла людзям, што робіцца ў нашым грамадстве, вытлумачыла ім сітуацыю. А найперш, можа, інтэлігенцыя павінна данесці людзям нашу гісторыю, розныя палітычна-вострыя моманты гэтай гісторыі. Мы ўсе, народ наш

---

**КАНФЛІКТ**

# «Імем рэвалюцыі пераехаць!»

*"Свабода"*

**Апошнім часам у акадэмічным Інстытуце мовазнаўства ўздрыгваюць, чуючы слова «картатэка».**

Гэтым разам кандыдатаў і дактароў навук хвалюе не адсутнасць сродкаў на рахунку ўстановы (за што, як вядома, інстытут могуць «пасадзіць на картатэку»), а перажываюць навукоўцы з-за картатэкі лексічнай, якая з'яўляецца падставай для стварэння розных слоўнікаў.

У цывілізаваных краінах зборы словаў нацыянальнай лексікі лічацца народным здабыткам, прадметам нацыянальнага гонару і павагі. Жадаючы засцерагчы архіў сваёй нацыянальнай мовы ад любых катаклізмаў, некалькі гадоў таму назад эстонцы, напрыклад, скапіявалі сваю картатэку, а копіі размясцілі ў Тарту і Хельсінкі. Некалькі паверхаў Фінляндскай нацыянальнай бібліятэкі знаходзяцца пад зямлёй, у іх захоўваецца духоўная спадчына фінаў, якая застанецца зафіксаванай, нават калі б над Фінляндыяй пранёсся атамны смерч.

Гэткая спадчына ёсць і ў нашым Інстытуце мовазнаўства, дзе захоўваюцца картатэкі гістарычнага, этымалагічнага, дыялектнага слоўнікаў, а таксама слоўніка беларускай літаратурнай мовы. Кампутараў у інстытуце практычна няма, затое ёсць картатэка, якая прыцягвае да сябе шматлікіх вучоных ды... многа пылу. І ўсё б нічога, але...

На будынак, дзе месціцца Інстытут мовазнаўства, раптоўна паклала вока адміністрацыя прэзідэнта Лукашэнкі. Яе прадстаўнік наведаў дырэктара інстытута акадэміка Падлужнага і паведаміў, што мовазнаўцаў чакаюць пярэбары. Услед з'явіліся будучыя гаспадары з факультэта міжнародных зносін БДУ і вельмі здзівіліся, пабачыўшы, што ім выдзелілі плошчы, з якіх яшчэ не з'ехалі людзі. Мяркуецца, што з 1 верасня на новай тэрыторыі ўжо будуць займацца студэнты.

У інстытуце мовазнаўства лічаць, што новага пераезду яны не перажывуць. Старажылы памятаюць, як падчас апошняга пераезду (у 1977 годзе) фактычна цалкам была разбураная лабараторыя эксперыментальнай фанетыкі. Пацярпела тады і картатэка, хоць супрацоўнікі інстытута, сярод якіх было амаль 50 мужчын, пераносілі кожную з некалькіх тысяч скрынак з карткамі на ўласных руках. Сёння ў інстытуце засталося толькі пяць здольных цягаць шафы і скрынкі хлопцаў, і кіраўніцтва з жахам думае, што ж застанецца ад картатэкі, калі распараджэнне аб тэрміновым «вымятанні» будзе ўвасоблена ў жыццё.

З гэтай нагоды акадэмік Падлужны запісаўся на прыём да прэзідэнта Акадэміі навук Сушчэні, але той адмовіўся яго прыняць. У дзяржавы ёсць больш важныя праблемы, чым нейкая там нацыянальная картатэка.

Вайны цяпер няма, але мне чамусьці згадваецца старажытнае выслоўе: *«Калі грымяць гарматы, музы маўчаць»*. Або прарочы сказ ананімнага аўтара *«Лысай гары»*: *«Беларуская культура плача ціхенька ў кутку»*...

**Аляксандр ЛАЗАРЧЫК**

---

# У чужаземных архівах

**У Мінску пачала сваю работу міжнародная навуковая канферэнцыя «Замежная архіўная беларусіка».**

У гэтага прадстаўнічага мерапрыемства шэсць арганізатараў — Камітэт па справаводству Рэспублікі Беларусь, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКО, Беларуская асацыяцыя гісторыкаў, гістфак Белдзяржуніверсітэта, часопіс «Беларуская мінуўшчына».

Пасля агульнага пленарнага пасяджэння работа будзе працягвацца па секцыях. Беларускія і замежныя вучоныя раскажуць пра крыніцы па гісторыі Беларусі ў чужаземных архіўных зборах. Беларусіка ў Ватыкане і Польшчы, на Украіне і ў Расіі, у іншых краінах свету — пра гэта можна будзе пачуць у выступленнях, дакладах самых аўтарытэтных вучоных.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

амаль не адукаваны гістарычна. Я працаваў у Польшчы і шмат разоў пераконваўся ў тым, што там кожны школьнік раскажа гісторыю сваёй краіны ад "а" да "я". А мы, можна проста сказаць, пазбаўлены сваёй гісторыі, мы дзесяцігоддзямі вывучалі не сваю, а чужую гісторыю. Распавесці пра ўсё гэта людзям сёння надзвычай цяжка, мо як ніколі цяжка. Сёння, калі тваё імя занесена ў спісы апазіцыянераў, ты начыста адлучаны ад радыё, тэлебачання ды і іншых сродкаў масавай інфармацыі. І другое. Мы павінны думаць сёння ўжо і пра новыя выбары, не кажучы пра давыбары. Дай Бог, каб наша інтэлігенцыя дайшла да разумення, што на гэтыя выбары дэмакраты павінны ісці з'яднанымі. Перавыбары ў Расіі Ельцына — нам добры прыклад і ўрок. Менавіта згуртаванне дэмакратычных сіл прывяло там да поспеху.

**— Прэзідэнт і Вярхоўны Савет — дзве галіны ўлады: выканаўчая і заканадаўчая. У ідэале паміж імі не павінны быць супрацьстаяння, канфрантацыі, вострых непаразуменняў. Сённяшняя ж сітуацыя ў Беларусі — далёка ад ідэала. І самае дзіўнае, парадаксальнае ў тым, што гэтае супрацьстаянне праяўляецца і ў поглядах на незалежнасць, суверэнітэт дзяржавы. Курс Вярхоўнага Савета, калі можна так сказаць, больш суверэнны, больш незалежніцкі. Што вы можаце сказаць наконт гэтага?**

— Я не сказаў бы, што ў гэтым супрацьстаянні — а яно, на жаль, безумоўна ёсць! — ляжаць нейкія ідэі, курсы, накірункі. Вядома, пэўныя адрозненні ёсць, але не яны ўсе ж вызначальныя. Хутчэй гэта супрацьстаянне аднаго чалавека з усімі. Я гэта разглядаў бы менавіта ў такой плоскасці. Давайце прыгадаем тое, што было. Было супрацьстаянне з Вярхоўным Саветам XIII склікання, з Канстытуцыйным Судом, супрацьстаянне са сваёй першай камандай, супрацьстаянне з сілавымі міністрамі, супрацьстаянне з прэсай, супрацьстаянне з моладдзю на мітынгах і шэсцях, супрацьстаянне з дэпутатамі XII склікання, калі іх збілі і выкінулі з будынка ВС... Памятаеце: я прыйду, разбяруся, у мяне ёсць спісы, ёсць факты злоўжыванняў... Сёння тыя "спісы" ў ягонай камандзе... Я не кажу пра супрацьстаянне з асобнымі палітыкамі: людзі ёсць розныя, сёння яны непрымірымыя апаненты, а заўтра могуць паразумецца, хоць, зрэшты, для такога чалавека, як А. Лукашэнка, не надта характэрна, каб сысціся са сваімі праціўнікамі. Кажуць, што я ледзь ці не першы ягоны апазіцыянер. Сёння, будучы намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета, я не маю права быць — на сваім пасадным узроўні — цэнтрам ці аплотам супрацьстаяння. Але калі робяцца крокі, якія не паддаюцца разуменню, нармальнай чалавечай логіцы, а то і проста павінны карацца крымінальна, не супрацьстаяць гэтаму я не маю права. Я веру, што пройдзе час, і народ кожнага з нас спытае: чаго ты там сядзеў, што ты рабіў? Дык вось хоць бы сабе самому я магу сказаць, што я рабіў і раблю...

Да чаго ў нас даходзіць, сведчыць хоць бы такі факт. Не так даўно ў нас прайшла сустрэча з членамі Савета дырэктараў Еўрапейскага банка. Іх найперш турбавала такое пытанне: як, маўляў, з вамі, гэта значыць з намі, можна працаваць, супрацоўнічаць, калі вы мяняеце раз-пораз свае законы, калі ўказ супрацьстаіць закону, падмяняе закон, калі дзейнічае не закон, а нейкі нарматыўны акт, і г.д. Сорамна прызнацца, але Вярхоўны Савет вымушаны быў прыняць Закон аб адказнасці за выкананне... законаў! Гэта ж абсурд, абракадабра з пункту гледжання нармальнага чалавека, нармальнай краіны, калі падпісваецца ўказ аб... невыкананні закона! Сорамна пры сустрэчах з людзьмі, з палітыкамі, з фінансістамі і эканамістамі, якія прыязджаюць да нас з намерамі супрацоўнічаць, — сорамна адказваць на падобныя іхнія пытанні. Я ўжо не кажу пра тое, куды можа прывесці нашу дзяржаву невыкананне законаў, прававое бязмежжа... Таму Вярхоўны Савет, і я асабіста, павінны, абавязаны зрабіць усё для таго, каб знайсці паразуменне з прэзідэнтам, з выканаўчай уладай. Іншага шляху няма.

**— У прэзідэнцкім асяроддзі ўзнікла і распрацоўваецца праграма пад назвай "ідэалогія беларускай дзяржаўнасці". Нібыта ўсё добра, але... Навошта вынаходзіць веласіпед? Агульнавядома ж, што любая дзяржава ўзнікае, сцвярджаецца і развіваецца, ідзе да росквіту на грунце нацыянальнай ідэі. Ці не так, Генадзь Дзмітрыевіч?**

— Я чытаў гэтую праграму, і скажу шчыра, не ведаю, для каго і дзеля чаго яна, калі ты пішаш адно, а робіш — іншае. З другога боку, я, можа, сёння не падкрэсліваў бы асабліва і значэнне нацыянальнай ідэі, хоць, безумоўна, цалкам пагаджаюся, што яна — аснова, грунт любой дзяржавы. Чаму? Успомнім, як было пастаўлена пытанне на рэферэндуме аб мове і якія крыкі "ўра!" і гігіканне былі аб перамозе на тым рэферэндуме. Горка ўсё гэта, але і забываць на тое не трэба. Такі наш народ. Трэба нашым палітыкам і навукоўцам, інтэлігенцыі нашай усвядоміць, што нацыянальная ідэя не авалодала пакуль што масамі. На жаль, гэта так. Нацыянальная ідэя выспела ў лепшых розумах народа, яна ішла, рухалася, развівалася, але яе паступальныя крокі былі гвалтам спынены. Таму трэба ў гэтым кірунку працаваць і працаваць. Найперш, вядома, нашай інтэлігенцыі і ў першую чаргу — творчай, навуковай. Таму я лічу, што ідэя дзяржаўнасці павінна распрацоўвацца і прапагандавацца. Вядома ж, у выхаванні народа, у тым ліку і ў выхаванні ў ім пачуцця дзяржаўнасці, велізарная роля належыць культуры. Нацыянальнай культуры, падкрэслю. У разуменні гэтага мы павінны выходзіць таксама на еўрапейскі ўзровень. Возьмем хоць бы само вызначэнне прыярытэтаў. Летась Нацыянальны фестываль песні і паэзіі ў Маладзечне прыкрылі, перавялі ў Мінск, у залу. Потым зразумелі, што знішчыць, растаптаць яго ўсё ж немагчыма, вярнулі назад, у Маладзечна, вярнулі без падтрымкі і ўвагі — выплывайце, ратуйцеся, як сабе хочаце. А вось "Славянский базар" — вунь як падтрымалі, выдзелілі яму велізарныя сродкі — больш за 300 тысяч долараў. Я быў на "Славянском базаре", быў разам з Сямёнам Георгіевічам Шарэцкім у той дзень, калі там праходзіў Дзень Беларусі. І што? Мы не пачулі амаль ніводнай беларускай песні, у беларускі дзень тон задавалі там выканаўцы з іншых краін, а пра нашу Беларусь нагадвалі толькі два трактары "Беларусь" з прычэпамі, выведзеныя на сцэну. Было неяк непамысна за такі нацыянальны дзень Беларусі на "Славянском базаре-96"...

**— Апошнія вясновыя падзеі, Генадзь Дзмітрыевіч, паказалі, яшчэ раз красамоўна пацвердзілі, што найбольш актыўна і свядома незалежніцкі шлях развіцця краіны падтрымлівае моладзь. Вы самі ішлі ў шэрагах красавіцка-майскіх шэсцяў і навочна бачылі гэта. Аб чым вы думалі ў сувязі з гэтым?**

— Была адна думка, радасная, вядома: знайшлася ўсё ж сіла, якая выйшла, каб прадэманстраваць, заявіць аб сабе цвёрда і аднаназначна, паказаць, што яна бароніць ідэі незалежнасці, выступае за сваю дзяржаву, за свой народ, за яго будучыню. Сіла гэта — моладзь. І гэта нараджала ў душы пачуцці гонару, радасці, надзеі. На жаль, такіх пачуццяў не зведваў другі бок. У час шэсця "Чарнобыльскага шляху" я пабачыў людзей з дубінкамі, са шчытамі, таксама маладых людзей, якія былі гатовы біць іншую моладзь, пад сцягамі і плакатамі, біць, хапаць, саджаць у міліцэйскія машыны. Я выходзіў да іх, да гэтых хлопчыкаў у шлемах і бронекамізэльках, гаварыў ім, што яны — такія ж дзеці Беларусі, як і тыя, што насупраць іх, у калонах "Чарнобыльскага шляху". І думалася ўжо пра гэтых, узброеных і непрымірымых, і думалася з трывогаю і горыччу... Некалі ж яны павінны быць і будуць разам, у адных шэрагах, як, паўтару, дзеці аднай маці-зямлі Беларусі.

**— І апошняе пытанне, Генадзь Дзмітрыевіч: якія перспектывы ў нашае дзяржавы, ці ёсць яны?**

— Перспектывы ёсць, безумоўна. Але пры адной умове: калі мы пачнем самі ладзіць парадак у сваім доме, а не ўскладаць усе надзеі на стварэнне розных саюзаў, супольнасцяў, інтэграцый. Галоўная ідэя — будаванне свайго дому, сваёй дзяржавы. Я спадзяюся, што мы ўсе дойдзем да гэтага разумення і да паразумення ў гэтай справе. Адно шкада, што пакуль, на жаль, трацім час, а даўно пара было б думаць аб сваёй радзіме і працаваць на яе карысць. Веру, цвёрда веру ў тое, што наша краіна будзе жыць, што над ёю разгарыцца ясная зара і прывядзе з сабою светлы, залаты дзень.

**З Генадзем КАРПЕНКАМ гутарыла Марыя ГІЛЕВІЧ**

## *Янка Салавянюк — Беларускі Разьбяр*

У Дэйтон, Агаё, 22-23 чэрвеня 1996 г. адбылася выстава ручнога майстэрства. Ад беларусаў быў запрошаны Янка Салавянюк з Кліўленду, Агаё. Ён быў выбраны з сотні разьбяроў ЗША. Задума сабраць і паказаць народных умельцаў амэрыканскай грамадзкасьці ўзьнікла ў жнівені мінулага году, а вялікія кампаніі амэрыканскага бізнэсу згадзіліся спансараваць выставу. Паўгода зьбіралі інфармацыі пра кожнага майстра, вывучалі арыгінальнасьць ручнога вырабу з улікам арыгінальнасьці творчае працы. Янка Салавянюк як разьбяр абразоў, партрэтаў і іканастасаў зацікавіў іх сваімі вырабамі і 15 сакавіка 1996 г. Нацыянальны фэстывальны камітэт «City Folk» з Я. Салавянюком падпісалі дамоўленасьць, што падарожжа, гатэль і харчаваньне будзе аплочанае камітэтам, а Я. Салавянюк прывязе на выставу 16 іконаў Божае Маці: Жыровіцкую, Вострабрамскую, Чанстахоўскую, Уладзімерскую, Курскую, Кіеўскую Ерузалімскую, Лібанонскую, Каптыйскую, Румынскую, Баўгарскую, Італьянскую, Фінлядзкую, Сэрбскую, Менскую і Чарнобыльскую. Таксама будзе дэманстраваць на выставе тэхніку разьбы ў дрэве і за гэта атрымае ганарар ад «City Folk».

Янка Салавянюк выдаў невялікую брашуру, у якой па-беларуску і па-ангельску пададзена ягоная біяграфія, сьціпла гісторыя беларускае разьбы іконаў, каляровыя і чорна-белыя здымкі іконаў. Выданьне брашуры сфінансавала парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе.

Каля 8,000 асоб наведала выставу. Знаёміліся з беларускім разьбяром і ягоным майстэрствам, а Янка знаёміў наведвальнікаў выставы з геаграфіяй і гісторыяй Беларусі. Журналісты для прэсы, радыё і тэлевізыі ўзялі інтэрв'ю ў Я. Салавянюка.

Міхась Белямук

**Нас просяць падаць да ведама...** што «Operation Belarus» у Лёндане, Канада пад кіраўніцтвам Др. Барыса Рагулі ды інш. атрымала наступныя ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| 1. Канадыйскі Дапамаговы Фонд (Чарнобыль) | $3,000.oo |
| 2. Парафія сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто | $1,000.oo |
| 3. Др. Чарльз Рууд | $1,000.oo |
| 4. Др. Барыс Рагуля | $1,000.oo |
| 5. Др. Раіса Жук-Грышкевіч | $200.oo |
| 6. М. і В. Пашкевіч | $100.oo |
| 7. Беларуска-Амэрык. Моладзь | $500.oo |
| 8. Др. Ян Запруднік | $500.oo |
| 9. Др. Уладзімір Набагез | $700.oo |
| 10. Беларуска-Амэрыканскі Цэнтар у Кліўлендзе | $6,000.oo |
| 11. Парафія Маці Божай Жыровіцкай у Кліўлендзе | $4,000.oo |
| 12. Сп. Анатоль Лук'янчук | $2,000.oo |
| 13. Др. Марыя Дэмковіч | $200.oo |
| 14. Фундацыя Крэчэўскага | $500.oo |
| 15. Др. Анна Бартуль-Сокалаў | $500.oo |
| 16. Спд. Ніна Вінтер | $300.oo |
| 17. Сп. П. Шыркоўскі (Англія) | £130.oo |
| 18. Беларускі Гуман. Фонд (Анг.) | £500.oo |
| 19. Сп. Кастусь Мерляк (Царква) | $500.oo |
| 20. Сп. А. Сільвановіч (Царква) | $1,000.oo |
| 21. Сп. В. і Г. Русак | $500.oo |
| 22. Сп. Кон Ворт | $200.oo |
| 23. Др. Лявон Трусэвіч | $900.oo |
| 24. Сп. Мікола Латушкін | $100.oo |
| 25. Сп. Пятро Нягода | $50.oo |
| 26. Сп. Мікола Грэбень | $200.oo |
| 27. Спд. Тамара Стагановіч | $300.oo |
| 28. Др. Анатоль Санковіч | $200.oo |
| 29. Др. Вітаўт Рагуля | $750.oo |
| 30. Спд. Галіна Бахар | $25.oo |
| 31. Др. Юрка Кіпель | $50.oo |
| 32. Др. М. Смаршчок | $50.oo |
| 33. Сп. К. і Я. Вініцкі | $150.oo |
| 34. Спд. Раіса Галяк | $25.oo |
| 35. Сп. Кастусь Верабей | $20.oo |
| 36. Сп. Міхась Рагуля | $100.oo |
| 37. Сп. Леанід і С. Мурог | $25.oo |
| 38. Сп. Васіль Шчэцька | $20.oo |
| 39. Спд. Люіс Коллін | $100.oo |
| 40. Сп. Юліян Мерляк | $50.oo |
| 41. Сп. Станіслаў Янкоўскі | $5.oo |
| 42 Сп. Янка Наваградзкі | $50.oo |
| 43. Спд. Тамара Аўдзей | $50.oo |
| 44. Спд. Ванда і М. Махнач | $200.oo |
| 45.Спд. Ірэна і а. В. Ільчук | $50.oo |
| 46. Сп. М. Бояроўскі | $20.oo |
| 47. Спд. Вера Заморскі | $200.oo |
| 48. Сп. Р. і А. Клімовіч | $20.oo |
| 49. Сп. Міхась Калядка | $20.oo |
| 50. Сп. В. Акавіты | $50.oo |
| 51. Сп. А. Садоўскі | $50.oo |
| 52. Сп. Павал Пачопка | $50.oo |
| 53. Сп. Янка Аршанскі | $30.oo |
| 54. Е. Маркоўскі | $5.oo |
| 55. Сп. Ул. Шаўцоў | $50.oo |
| 56. Ананімна | $20.oo |
| 57. Сп. Хведар Кажаневіч | $10.oo |
| 58. Сп. Алекс Мароз | $700.oo |
| 59. Сп. Стафан Міровіч | $100.oo |
| 60. Сп. Ул. і М. Траскевіч | $20.oo |
| 61. Сп. Кукель | $ 100.oo |
| 62. Сп. Т. Лашук | $100.oo |
| 63. Сп. Ян. Барысэвіч | $40.oo |
| 64. Сп. Б. Шайскі | $150.oo |
| 65. Сп. Л. Парэцкі | $160.oo |
| 66. Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтар, Саўт Рывэр | $500.oo |
| 67. Др. А. Бразоўскі | $150.oo |
| 68. Сп. Т. Дамінік | $2,075.oo |
| 69. Сп. М. Лужынскі | $587.53 |
| 70. Сп. М. Калаур | $50.oo |
| 71. Сп. У. Русак | $50.oo |
| 72. Сп. М. Сазановіч | $50.oo |
| 73. Сп. У. Кобрын | $50.oo |
| 74. Сп. М. Бакуновіч | $50.oo |
| 75. Сп. У. Ліпскі | $50.oo |
| 76. Сп. С. Нарушэвіч | $100.oo |
| 76. Сп. Н. Ярашук | $100.oo |
| 77. Сп. М. Антух | $100.oo |
| 79. Сп. М. Антоўскі | $100.oo |
| 80. Сп. В. Стуарт | $50.oo |
| 81. Сп. Я. Лашук | $50.oo |
| 82. Сп. Д. Тумашэўскі | $20.oo |
| 83. Сп. Шкода | $150.oo. |

## АМЭРЫКА ДАПАМОЖА?!

**18 ліпеня ў Мінску адбылося падпісанне двухбаковага пагаднення паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Беларуссю аб дапамозе, якое юрыдычна вызначае механізм яе аказання з боку ЗША.**

**Дакумент забяспечыць больш лёгкую працэдуру дастаўкі і бяспошліннага ўвозу ўсіх відаў прадукцыі, у прыватнасці, харчавання, медыцынскіх прэпаратаў, тэхналагічнага абсталявання, якія прадастаўляюцца ў якасці дапамогі. Пагадненне прадугледжвае вызваленне ад уплаты ў Беларусі падаходнага падатку тых грамадзян ЗША і іншых замежных дзяржаў, якія заняты ў сферы прадастаўлення амерыканскай дапамогі. Калі інспекцыйнымі групамі ЗША будзе ўстаноўлена, што дапамога трапіла не па прызначэнню, урад Беларусі будзе абавязаны кампенсаваць яе кошт ЗША. Дакумент быў падпісаны паслом ЗША ў Беларусі Кенетам Ялавіцам і міністрам знешніх эканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь Міхаілам Марынічам.**

Яшчэ адна нічога ня вартая паперка, ці нешта сапраўды праўна важнае?.. Пажывем — пабачым...

## *Нам пішуць... Нас Пытаюць...*

Паважаны Рэдактар!

"Беларускі Дайджэст" за жнівень атрымаў, шчыра дзякую.

Зьмест газэты вельмі цікавы і добра інфармуе пра цяперашнюю палітычную і эканамічную сытуацыю на многапакутнай Беларусі. Прыемна чытаць, што незважаючы на русафікацыю і антынацыянальную палітыку Лукашэнкі і яго вертыкальшчыкаў, незалежніцкі і патрыятычны дух у народзе не памірае, а паволі ўзрастае. Сьветкай артыкул: "Заява грамадзкага камітэту абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі" і "Зьезд мастакоў пра сімволіку". Мы ў Замежжы пра гэтых людзей не павінны забываць, а ўсімі сіламі ім памагаць, каб яны змаглі абараніць і захаваць незалежнасьць Беларусі. Важна, каб наша эміграцыйная прэса даходзіла да чытачоў на Бацькаўшчыне, бо там, як нам ведама, незалежніцкай прэсы амаль няма, а якая ёсьць то ўсімі спосабамі ўрадам прыцікаецца. Было-б добра, каб чытачы нашай прэсы перасылалі яе на Бацькаўшчыну сваім родным ды знаёмым... Жадаю посьпехаў у працы. Перасылаю ахвяру. Жыве Беларусь!

З пашанай, С. Б.

*Дзякуем за цікавы ліст і ахвяру. Вашая ідэя адносна перасылкі прэсы і дапамогі нашым аднадумцам на Бацькаўшчыне заслугоўвае на ўвагу. Жадаем усяго найлепшага.*

Шаноўны спадар Прускі!

Днямі атрымаў газэту. Вялікі дзякуй. Залучаю невялікую ахвяру і прашу дасылаць і надалей.

Таксама дасылаю невялікі артыкул з газэты «Свабода»... Тое, што пішуць у "Свабодзе", нават духоўным Чарнобылем назваць немагчыма; тое прадвесьце канца. Напэўна, людзі, далёкія ад акадэмічных колаў, з цяжкасьцю могуць уявіць усе жахлівыя пасьледзтвы пашкоджаньня картатэкі моўнага фонду Беларусі. Было-б добра, каб Ваша газэта передрукавала артыкул, калі на тое ёсьць магчымасьць...

З павагай, Л. Ю.

*Артыкул сапраўды цікавы, друкуем. Дзякуем за ахвяру і запрашаем да супрацоўніцтва. Усяго найлепшага.*

Дарагі сябра Прускі!

Перасылаю скромную ахвяру на газэту "Беларускі Дайджэст", за якую шчыра Вам дзякую. Газэта цікавая зьместам і кампазыцыяй. Жадаю Вам усяго найлепшага ў Вашай выдавецкай і дапамаговай дзейнасьці. З глыбокай пашанай да Вас астаюся, М. Т.

*Дзякуем за ахвяру і жадаем Вам усяго найлепшага.*

Дарагі Мікола!

Перасылаю ахвяру на "Беларускі Дайджэст". Зьбіраўся перадаць гэту ахвяру асабіста на Сустрэчы, але захварэў і на Сустрэчы, відаць, ня буду. Шчыра дзякую за перасылку газэты, яна вельмі цікавая і інфармацыйная. Няхай Бог дапамагае Табе ў карыснай і ахвярнай працы. Сардэчныя прывітаньні жонцы.

З пашанай Л. Т.

***Дзякуем за падтрымку нашай газэты. Што адносіцца да хваробы, дык катэгарычна хварэць ня трэба, хоць пад старшыя годы ад розных недамаганьняў цяжка абараніцца. Дык трымайся і будзь заўсёды пры добрым здароўі.***

## ПРАДБАЧВАЮЦЬ НЕДАХОП ХАРЧАВАНЬНЯ

Як паведамляюць газэты, сьвет набліжаецца да небывалага недахопу харчаваньня, якога ані навука, ані цяперашняя сельскагаспадарчая практыка ня будуць у сіле вырашыць. Так прадугледжваюць вядучыя вучоныя... Насельніцтва пабольшае на 2 більёны чалавек у так званым Трэйцім сьвеце ўжо недзе каля 2025 году, а паўразьвітыя краіны будуць патрабаваць 75% больш харчаваньня.

Калі зарплата будзе падвышацца, а гарады разрастацца, асабліва ў Кітаі і Індыі, патрабаваньні могуць быць яшчэ большымі. Людзі ўсяго сьвету павінны прачнуцца і зразумець гэтую праблему.

Навукоўцы, якія распачалі Зялёную рэвалюцыю ў сельскай гаспадарцы у 1960-70 гадох, калі навуковыя адкрыцьці далі магчымасьць да хуткага ўзросту харчовае прадукцыі, кажуць, што на паўтор падобнага экспэрыменту лічыць не прыходзіцца.

Сьвет мусіць падрыхтавацца да небывалага прыросту насельніцтва, якое можа павялічвацца меншбольш на 90 мільёнаў штогод. Прадукаваць харчаваньне трэба будзе ў большай колькасьці і зусім новымі спосабамі...



**IN MEMORIAM**

7-га ліпеня 1996 году памёр старэйшы сын Якуба Коласа — Даніла К. Міцкевіч. Пражыў 81 год. Да апошняга часу працаваў старэйшым навуковым супрацоўнікам і галоўным кансультантам у музэі Я. Коласа. Нашыя спачуваньні сям'і ды ўсім родным і блізкім. Вечная Памяць!



Умінулым годзе пры таварыскай сустрэчы. Зьлева на права: Мікола Прускі, Васіль Быкаў і Даніла Міцкевіч.

## *ЗДАБЫТЫЯ МЕДАЛІ*

| Nation | G | S | B | Total |
|---|---|---|---|---|
| United States | 44 | 32 | 25 | 101 |
| Germany | 20 | 18 | 27 | 65 |
| Russia | 26 | 21 | 16 | 63 |
| China | 16 | 22 | 12 | 50 |
| Australia | 9 | 9 | 23 | 41 |
| France | 15 | 7 | 15 | 37 |
| Italy | 13 | 10 | 12 | 35 |
| South Korea | 7 | 15 | 5 | 27 |
| Cuba | 9 | 8 | 8 | 25 |
| Ukraine | 9 | 2 | 12 | 23 |
| Canada | 3 | 11 | 8 | 22 |
| Hungary | 7 | 4 | 10 | 21 |
| Romania | 4 | 7 | 9 | 20 |
| Netherlands | 4 | 5 | 10 | 19 |
| Poland | 7 | 5 | 5 | 17 |
| Spain | 5 | 6 | 6 | 17 |
| Britain | 1 | 8 | 7 | 16 |
| Bulgaria | 3 | 7 | 5 | 15 |
| Belarus | 1 | 6 | 8 | 15 |
| Brazil | 3 | 2 | 10 | 15 |
| Japan | 3 | 6 | 5 | 14 |
| Czech Republic | 4 | 3 | 4 | 11 |
| Kazakstan | 3 | 4 | 4 | 11 |
| Greece | 4 | 4 | 0 | 8 |
| Sweden | 2 | 4 | 2 | 8 |
| Kenya | 1 | 4 | 3 | 8 |
| Switzerland | 4 | 3 | 0 | 7 |
| Norway | 2 | 2 | 3 | 7 |
| Denmark | 4 | 1 | 1 | 6 |
| Turkey | 4 | 1 | 1 | 6 |
| New Zealand | 3 | 2 | 1 | 6 |
| Belgium | 2 | 2 | 2 | 6 |
| Nigeria | 2 | 1 | 3 | 6 |
| Jamaica | 1 | 3 | 2 | 6 |
| South Africa | 3 | 1 | 1 | 5 |
| North Korea | 2 | 1 | 2 | 5 |
| Ireland | 3 | 0 | 1 | 4 |
| Finland | 1 | 2 | 1 | 4 |
| Indonesia | 1 | 1 | 2 | 4 |
| Yugoslavia | 1 | 1 | 2 | 4 |
| Ethiopia | 2 | 0 | 1 | 3 |
| Algeria | 2 | 0 | 1 | 3 |
| Iran | 1 | 1 | 1 | 3 |
| Slovakia | 1 | 1 | 1 | 3 |
| Argentina | 0 | 2 | 1 | 3 |
| Austria | 0 | 1 | 2 | 3 |
| Armenia | 1 | 1 | 0 | 2 |
| Croatia | 1 | 1 | 0 | 2 |
| Portugal | 1 | 0 | 1 | 2 |
| Thailand | 1 | 0 | 1 | 2 |
| Namibia | 0 | 2 | 0 | 2 |
| Slovenia | 0 | 2 | 0 | 2 |
| Malaysia | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Moldova | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Uzbekistan | 0 | 1 | 1 | 2 |
| Georgia | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Morocco | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Trinidad & Tobago | 0 | 0 | 2 | 2 |
| Burundi | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Costa Rica | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Ecuador | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Hong Kong | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Syria | 1 | 0 | 0 | 1 |
| Azerbaijan | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Bahamas | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Latvia | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Phillippines | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Taiwan | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Tonga | 0 | 1 | 0 | 1 |
| Zambia | 0 | 1 | 0 | 1 |
| India | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Israel | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Lithuania | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Mexico | 0 | 0 | 1 | 1 |
| Mongolia | 0 | 0 | 1 | 1 |

# Каляровая будучыня Амерыкі

Краінай каляровых станунь да сярэдзіны будучага стагоддзя заснаваныя некалі англічанамі і ірландцамі Злучаныя Штаты. Пакуль яшчэ белыя складаюць вялікую большасць, амаль тры чвэрці насельніцтва краіны, чорныя — 12 працэнтаў, лацінаамерыканцы — трохі больш дзесяці і азіяты — 3,3. Аднак імкліва расце легальнае, а яшчэ болей — нелегальнае перасяленне: па некаторых падліках, штогод у Злучаныя Штаты, у абход законных шляхоў, прыязджаюць 800 тысяч чалавек, у асноўным з Мексікі, іншых краін Лацінскай Амерыкі, а таксама з Азіі.

Да пачатку будучага стагоддзя прадказваюць ужо мільён нелегальных эмігрантаў у год. З прычыны гэтага да 2050 года доля белых зменьшыцца да 52,8 працэнта, а праз дзесяць гадоў яны не будуць складаць і паловы насельніцтва. І, як лічаць спецыялісты, прыпыніць гэты працэс немагчыма.

Нягледзячы на строгую ахову граніцы, мексіканцы натоўпамі прыбываюць у краіну, і закона, які забараняе прыём на працу нелегальных эмігрантаў, прыняць не ўдаецца.

У будучым стагоддзі ў Амерыцы замест цяперашніх 262 мільёнаў будуць жыць каля 400 мільёнаў людзей, сярод іх значна больш сталых людзей, чым зараз. У цяперашні час колькасць людзей, якім болей за 85 гадоў, складаюць 3,3 мільёна, а да 2060 года яна прыблізіцца да 18 мільёнаў.

## Irena Kalada-Smirnov in Slovenia

Mrs. Irena Kalada-Smirnov, President of the «Ethnic Voice of America», one of the most important humanitarian organizations in the USA, came for a visit to Slovenia today.

Mr. Mirko Jelenič, Secretary General of the Red Cross of Slovenia, received her at the Red Cross Headquarters. Mrs. Kalada-Smirnov informed him about the role and the activities of her institution which is mostly dealing with children relief. Simultaneously she expressed her wish to establish contacts with the Red Cross of Slovenia as well as cooperation in organizing holidays and medical treatment for the children effected by the Chernobyl catastrophe at the Youth Health Resort Debeli rtič.

The American organization is in favor of establishing a lasting cooperation between its American members, Slovenia and Belarus. In order to achieve that they have already prepared a program of holiday making for Belarusian children at Debeli rtič which would be financed by their organization, and just today the first Belarusian family — mother with two children — arrived to Debeli rtič.

In their further contacts the Red Cross of Slovenia and the Ethnic Voice of America will also study the possibilities of co-financing the reconstruction of the Debeli rtič Health Resort as well as signing a long-term co-operation contract.

Red Cross of Slovenia,
Information Service
August 5, 1996

## *ЦЫНІЗМ ТЫДНЯ*

Тое, што жывём мы не ў беларускай дзяржаве, а невядома дзе, час ад часу пацвярджаюць і публікацыі ў газеце "Знамя юности". Скажыце, ну якая дзяржава можа выдаваць газету, дзе шалёна ганьбуецца і абражаецца сама гэтая дзяржава? У нумары за 23 ліпеня пад рубрыкай "Горкие даты" і загалоўкам "Что празднуем, "спадары"?" нехта У. Зуеў адкрыта і бессаромна здзекуецца з галоўнага свята дзяржавы і, усяляк перакручваючы "факты", ставіць пад сумненне нават само яго існаванне (чаго вартыя толькі рубрыка: "Горькие даты"?). Ну а апафеоз блюзнерства — прыпісачка ў канцы артыкула: "У час падрыхтоўкі матэрыялу да друку стала вядома, што шэраг партый і грамадскіх арганізацый ужо рыхтуюць звароты на адрас прэзідэнта і ўрада з просьбай перанесці галоўнае нацыянальнае свята (якое называецца цяпер Днём незалежнасці) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Абсурд. Ідыятызм... Такое ўражанне, што нехта (не Зуеў, вядома) сядзіць недзе ў куточку і толькі і думае пра тое, якую б гэта гадасць зрабіць гэтаму няшчаснаму (дурному) народу, каб канчаткова дабіць яго, задушыць, знішчыць, каб і следу не засталося ад ягонай гісторыі, сімвалаў, мовы і ад яго самога...

Няўжо беларускія патрыёты-незалежнікі ня ведаюць, як прымусіць нейкага У. Зуева ці іншага Ху-ва паважаць край у якім яны часова загнязьдзіліся? Такіх прахадзімцаў трэба вучыць...